# ЗЬМЕСТ.



---

1-ая дзяржаўная друкарня. Заказ № 3296. У ліку 2000 экз. Галоўлітбел № 26293.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная часопісь сельскай і лясной гаспадаркі.

III год выданьня | Верасень 1927 г. | № 9

## „Дзень Ураджаю"—сьвята дасягненьняў сельскай гаспадаркі.

14 кастрычніка гэтага году па БССР, як і ў мінулыя гады, пачнецца сьвяткаваньне „Дню ўраджаю". Самая назва сьвята гаворыць, у чым яго сутнасьць: *вясковае насельніцтва сьвяткуе канец гаспадарчай і найбольш цяжкай у працягу года працы*, сьвяткуе час падліку выніку гэтай працы.

Ва ўмовах Савецкае ўлады і савецкае грамадзкасьці сьвяткаваньне „Дню Ураджаю" палучыла шырокі грамадзкі сэнс. У дзень „Дню Ураджаю" таксама набываюць каштоўнасьць і моманты шырокай агранамічнай і культасьветнай прапаганды за „Новую вёску" на падставе высьвятленьня нашых сельска-гаспадарчых і культурных дасягненьняў.



III-яя раённая с-г. выстаўка 1926 г. ў Мсьціслаўлі.

Галоўнымі формамі выяўленьня гэтых дасягненьняў зьяўляліся і будуць зьяўляцца сельска-гаспадарчыя выстаўкі.

Сьвяткаваньне „Дню Ураджаю" ў гэтым годзе павінна мець і пэўны палітычны зьмест, бо ў гэтым годзе працоўныя масы СССР будуць сьвяткаваць Дзесяцігодзьдзе Кастрычнікавае Рэвалюцыі. Адсюль-жа і асабліваe значэньне набывае сьвяткаваньне „Дню Ураджаю", калі гэта сьвята павінна адбіць ня толькі дасягненьні аднаго году, а выявіць і дасягненьні савецкага будаўніцтва сельскай гаспадаркі на працягу шэрагу год і асабліва замацоўваньня ў нас момантаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Вось чаму сельска-гаспадарчыя выстаўкі гэтага году і павінны быць прыстасованы да высьвятленьня гэтых дасягненьняў. Выстаўкі

павінны адбіваць разьвіцьцё, напрыклад, колхозаў у раёне, а не колхозаў адзінак; разьвіцьцё шматпалёвых севазваротаў у цэлым раёне, а не паасобных снапоў з гэтых севазваротаў, значнае пашырэньне пасева кармовых караньплодаў, культуры балот у раёне, а не на паасобных вучастках, дзе гэта праца толькі пачынаецца. Выявіць гэта магчыма, але ня так лёгка.

Організатары выставак павінны правесьці значную падрыхтоўчую працу па апрацоўцы належных лічбаў, іх групаваньні ў экспонаты і г. д. Трэба падкрэсьліць, што калі выпадковасьць экспонатаў і была ў нас раней, дык зараз гэта будзе парушаць галоўны сэнс сьвяткаваньня „Дню Ўраджаю", як сьвята па выяўленьню дасягненьняў сельскай гаспадаркі БССР за цэлы шэраг ранейшых год.

*Як павінна праходзіць падрыхтоўка да „Дню Ўраджаю"*. Згодна інструкцыі Наркамзему, узгодненай з АПО ЦК КПБ усёй падрыхтоўчай працай па сьвяткаваньню „Дню Ўраджаю" на мясцох павінны кіраваць асобыя камісіі: акруговыя па акрузе, раённыя—у раёнах і сельскія—у межах сельсаветаў (абавязкі сельскае камісіі магчыма ўскладаць на існуючыя пры сельсаветах с.-г. сэкцыі). Да 15-га верасьня ўсе камісіі павінны быць створаны і пачаць сваю працу.

Галоўнымі мэтамі працы камісій павінны зьяўляцца: 1) распрацоўка пляну сьвяткаваньня, 2) вышукваньне сродкаў на выдаткі па сьвяткаваньню, асабліва на с.-г. выстаўкі, 3) апавяшчэньне насельніцтва аб парадку сьвяткаваньня, 4) агульнае кіраваньне і правядзеньне с.-г. выставак, урачыстых сходаў, гуляньняў, ушанаваньняў працаўнікоў і гаспадароў, як найлепшых у працы па адбудове сельскае гаспадаркі ў раёне.

Зразумела, ніякія камісіі ня могуць забясьпечыць пасьпеху сьвяткаваньня, калі самі сяляне зараз-жа не пачнуць рыхтавацца да гэтага сьвята.

Трэба зараз-жа разьмяркаваць, што і як больш яскрава адаб'е дасягненьні сельскай гаспадаркі, асабліва тыя яе староні, якія зьявіліся за апошнія гады, напрыклад, у напрамку падвышэньня ўраджаю, удою малака, засеву траў, лубіну, караньплодаў, скарыстаньня торфу, прымяненьня мінэральных угнаеньняў і г. д. Было-б вельмі добра, калі-б ўсе гэтыя бакі гаспадаркі ўгрунтоўваліся-б належнымі лічбамі, дзе можна было-б мець адказ на пытаньне: дзе, у якім годзе, з якой плошчы, колькі ўраджаю і г. д.

У гэтым годзе, як і ў папярэднія гады, галоўная ўвага будзе зьвернута на раённыя с.-г. выстаўкі (у раённым цэнтру). На іх будуць высьвятляцца гаспадарчыя дасягненьні раёну ў розных галінах гаспадаркі. Апрача раённых с-г. выставак, будуць створаны і дробнараённыя выстаўкі з тым, каб даць магчымасьць прыняць удзел у выстаўках і сялянам самых далёкіх ад раённага цэнтру вёсак. Гэтыя дробна-раённыя выстаўкі праводзіліся і ў мінулыя гады ў Менскай, Аршанскай і інш. акругах.

Раённыя выстаўкі павінны быць агульныя па тыпу экспонатаў—гэта значыць па ўсіх галоўных галінах сельскае гаспадаркі (расьлінаводзтва, жывёлагадоўлі, мэліорацыі і культуртэхнікі, лясной гаспадаркі, зямляўпарадкаваньня, саматужнай прамысловасьці). На раённых с.-г. выстаўках будуць ствараюцца асобныя *куткі сялян-дасьледчыкаў, Чырвонай арміі, ячэек Асоавіяхіму, Мопр'у.*

На некаторых выстаўках будзе праводзіцца пашырэньне с-г. літаратуры (газэт, лістовак, брашур і г. д.). Працяг раённых выставак мяр-

куецца мець ня менш 2 дзён, але гэта залежыць у большасьці не ад організатараў выстаўкі, а ад удзельнікаў-сялян. Звычайна яны ня вытрымліваюць больш аднаго дню, у выніку чаго аднадзённая выстаўка поўнасьцю не скарыстоўваецца.

Усе лепшыя прыклады па вядзеньню сельскай гаспадаркі, дасьледчай працы, а таксама і ўсякая іншая карысная для гаспадаркі праца будзе прэміравацца; прэміі будуць ганаровыя і матэрыяльныя ўзнагароды.

На *што будзе зьвернута асаблівая ўвага экспэртнай камісіі пры вызначэньні ўзнагароды?* Папершае, на высьвятленьне тых дасягненьняў, якія будуць сьведчыць аб узмацненьні колектывізацыі ў разьвіцьці сельскае гаспадаркі ва ўсіх галінах. Таму колгаспадаркі, коопэрацыйныя аб'яднаньні, пасёлкі і вёскі з шматпалёвымі севазваротамі, як гаспадарчыя аб'яднаньні, павінны як мага паўней быць выяўленымі на с-г. выстаўках.

Падругое, на высьвятленьне тых дасягненьняў, якія паказваюць перабудову масавай сялянскай гаспадаркі ў напрамку яе рацыяналізацыі. У большасьці раёнаў гэта будзе шлях узмацненьня прадукцыйнасьці жывёлагадоўлі на грунце вырашэньня кармовага пытаньня, інакш на пасеў на полі траў (канюшыны, сэрадэлі), палепшаньне сенажаці, пасеў кармовых кораньплодаў.

Патрэцяе, на дасягненьні ў напрамку падвышэньня вытворчасьці глебы, расьліны, жывёлы. Гэта значыць на падвышэньне ўраджаю ў полі, садзе, гародзе, на падвышэньне ўдою кароў, прадукцыйнасьці сьвіньні і г. д. (Аб гэтым больш падрабязна напісана ў артыкуле С. Тупяневіча, „Плуг“ № 8).

Сродкі якімі здабыты ўсе дасягненьні павінны быць таксама высьветлены. Напрыклад, ураджай павышаны ад угнаеньня глебы ці добрага гатунку насеньня і наколькі падвышэньне ўраджаю стала не выпадковым.

Гэта магчыма будзе лепш зрабіць, калі гаспадар будзе трымаць сувязь з аграномам, які перад камісіяй і пацьвердзіць усе абставіны працы гаспадара.

Прысуджаныя экспэртнай камісіяй узнагароды павінны выдавацца па магчымасьці тут-жа на выстаўцы. Да выставак у большасьці раёнаў будуць прыстасоўвацца ўрачыстыя сходы, аграсуды, правядзеньне ўшанаваньняў адзначных узнагародамі „мастакоў зямлі“ і г. д.

Гэтая частка сьвяткаваньня павінна найбольш выразна падкрэсьліць радасьць працоўных у дасягненьнях па барацьбе за лепшую будучыню.

Сьвята „Дзень Ураджаю“ не павінна быць падобным старому п'янаму „Пакрава“, а быць днём перамогі над цемраю мінулага ў выніку ўпартай працы пад кіраўніцтвам Савецкай улады і Камуністычнае Партыі Беларусі.

**А. Міхайлаў.**

# Аб торфе.

*(Ліст селяніна-дасьледчыка Я. К. Мароза).*

У Лепельшчыне яшчэ і да вайны шмат сялян ужо думалі аб тым, каб дравяны апал замяніць на тарфяны. У Лепельшчыне жыве шмат латышоў з-пад Рыгі, яны знаёмы былі з распрацоўкай торфу яшчэ і раней, бо дома ўжо даўно вялі гэтую работу. Усе яны на сваёй практыцы праканаліся што самы лепшы спосаб дабываць торф у малых гаспадарках гэта—аднаконнымі тарфянкамі кадачнай сыстэмы. Такія тарфянкі немцы да вайны прывозілі ў Рыгу і іх усе раскуплялі латышы для сваіх гаспадарак. Шмат хто з нашых сялян сплаўлялі раней лес па Заходняй Дзьвіне ў Рыгу і на лета заставаліся на працу на латыскіх хутарох. Там яны навучыліся працаваць гэтымі машынамі. Пасьля вайны шмат хто з такіх сялян хацеў купіць сабе такую тарфянку, але іх дастаць было нельга.

Да вайны такія тарфянікі, як і ва ўсходняй Прусіі, выраблялiся і ў Коўні на чыгунна-ліцейным і машынным заводзе „Мінэрва". Каштавала кожная машына 150 р. без дастаўкі. Цяпер-жа іх у нас няма.

У 1911 г. на выстаўцы ў м-ку Ліозна мой сын убачыў модэль (паменшаны абразец, узор) тарфянай печы. Модэль гэта была грамадзяніна Гаеўскага з маёнтку Манцава (з-пад Воршы). Зімой 1911-12 г. сын мой паехаў у Манцава і зрабіў сабе такую-ж модэль. У Манцаве па гэтай модэлі была зроблена печ. Хаця Гаеўскі сам яе і хваліў, але гаспадыні казалі, што яна нічога ня варта.

Наш сусед Славецкі таксама зрабіў сабе печ па модэлі Гаеўскага; аднак яна ня мела добрых водзываў. Здарылася так, што ў нас быў аграном Харунжы, які ў 1913 г. быў пасланы ў Маскву на тарфяныя курсы. Ён паказаў нам модэль печы, якую ён бачыў на Раўтаўскіх торфараспрацоўках і якая належыла І. Б. Васкрасенскаму. Па гэтай модэлі там-жа пабудаваны печы ў рабочых хатках. Вось тут ужо гаспадыні рабочых вельмі хвалілі гэтыя печы: казалі, што і страва добра варыцца і хлеб добра пячэцца.

Пазьней Васкрасенскі ў сваім лісту растлумачыў мне, што печы, якія былі пабудаваны па проекту, які прывёз Харунжы, былі дрэннымі таму, што ня ўмелі імі карыстацца. Модэль Васкрасенскага захавалася ў Ленінградзе, але дастаць яе мне ня ўдалося, бо вельмі дорага за яе запрасілі. Тым часам мой сын зрабіў сабе модэль печы па ўзору агранома Харунжага за 3 дні і абышлася яна вельмі танна.

Дастаць кнігу І. І. Віхляева аб торфе нам не ўдалося, бо яе, на вялікі жаль, ня было ў продажы ў Маскве і Ленінградзе. Пазьней мы пазычылі яе ў бібліотэцы сельска-гаспадарчае Акадэміі ў Горках. Прачытаўшы, мы сьпісалі чарцяжы тарфяной печы, але вядома, што модэль заўсёды лепш, як чарцяжы.

На маё запытаньне ў газэту „Беларуская Вёска", дзе можна дастаць лапаты для капаньня торфу і аднаконныя тарфянкі (машыны), 24 красавіка 1927 г. мне быў даны такі адказ, што тарфяных лапат у продажы няма, а заказаць іх можна ў Менску. Тарфяную-ж машыну можна дастаць у Маскве, але Масква нам адказала, што там няма.

З гэтага відаць, як цяжка часамі селяніну дастаць патрэбную для яго рэч. Вось на гэта і трэба зьвярнуць больш пільную ўвагу. Лесу ў нас штогод то меншае. Скора нават на будоўлю ня хопіць. Яго трэба берагчы, а для гэтага трэба пераходзіць на тарфяны апал. Каб усе доб-

ра гэта ўразумелі патрэбна як найчасьцей пісаць аб пераходзе на тарфяны апал у газэтах і часопісях.

Часамі здараецца, што будаўляны лес сякуць на дровы, а хаты будаваць няма з чаго. З гэтым трэба змагацца. Трэба адчыніць некалькі курсаў па тарфянай справе і практычна паказаць, дзе лягчэй і як лепш даставаць торф на апал.

У нас у Лепельшчыне па торфа-распрацоўцы яшчэ нічога ня робіцца, хаця ў Віцебшчыне там-сям работа наладжваецца. Ёсьць тарфяныя таварыствы, якія пачалі асушваць балоты. Для пачатку работ таварыствам даецца крэдыт. Па мойму з вышэйшай школы ня трэба выпускаць ніводнага доктара, настаўніка, агранома не азнаёміўшы іх з тарфяною справаю. Таксама вельмі патрэбна выпусьціць некалькі кніжак для азнаямленьня сялян з тарфяной справай, а кніжкі Віхляева, колькі я ні шукаў, усё-ж такі дастаць ня мог *).

Фатынь, Лепельшчына.

**Я. Мароз.**



Возера Лукомль, дзе працуе рыбаводны завод Наркамзема.

*) Да гэтага артык. Я. Мароз дадаў усе рукапісныя і друкаваныя матэрыялы, на якія ён спасылаецца (Рэд.).

# Палявая гаспадарка

## Першы крок культуры балот.

Яшчэ год таму назад балота ў Зубараўскім пасёлку Мсьціслаўскага раёну знаходзілася ў першабытным стане. Балота гэта, як і другія балоты, якіх у раёне каля 5000 дзесяцін,—нізіннае, травяна-асаковае. Торф на балоце ў паасобных месцах дасягае да 4 мэтраў глыбіні, а ў сярэднім каля 1,5-2 мэтраў. Балота раней ніякой карысьці сялянам не давала. Нельга было яго касіць ні пасьвіць на ім жывёлу, бо яно было вельмі топкім і з дрэннай расьліннасьцю. Наогул, куток меў малюнак, які можна бачыць шмат дзе на Беларусі.

*Вось гэта самае балота за год працы сялян Зубараўскага пасёлку*, якія аб'ядналіся ў мэліорацыйнае таварыства, *атрымала аблічча пышнай нівы з першаклясным ураджаем аўса, выкі і інш.* Цяпер я хачу пагаварыць аб эканамічнай падставе мэліорацыі і культуры гэтага балота на падставе абсьледаваньня і вучоту ўраджаю.

Паглядзім на сярэднія ўраджаі траў і збожжа нашага раёна, узяўшы сярэдні ўраджай для Аршанскй акругі і параўнаем іх з ураджаямі на даным балоце.

| | Збор сена і аўса з 1 дзес. ў пудох. | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Пасеўныя травы | | Натурал. сенажаць | | Авёс | |
| | Выка | Канюшына | Заліўная | Балотная | Зярна | Саломы |
| Па акрузе*) . . . . | 168 | 204 | 148 | 89 | 53 | 120 |
| На балоце . . . . | 320 | пасеяна ў 1927 г. | — | — | 98 | 214 |

*) Як бачым з гэтай таблічкі, сярэдні ўраджай выкі на балоце на многа перавышае ўраджай пасеўных траў і натуральных сенажацяй па акрузе. Таксама ўраджай аўса на балоце ў два разы перавышае ўраджай на мінэральнай глебе.

Далей паглядзім, колькі каштуе ўся праца па мэліорацыі і культуры 1 дзес. балота і які ад гэтага прыбытак. Паказваю ў табліцы:

| №№ | Назва расходаў | Руб. | Увага |
|---|---|---|---|
| 1 | Капаньне канаў . . . . | 42 | Кошт працоўнага дня і насеннага матар'ялу ўзяты па мясцовым цэнам. |
| 2 | Ворыва плугам „Піоэр" . | 9 | |
| 3 | Скарадзьба талёрк. баран. | 8 | |
| 4 | Скарадзьба звычайная . | 3 | |
| 5 | 6 пуд. выкі на пасеў . . | 9 | |
| 6 | 6 пуд. аўса на пасеў . . | 8 | |
| 7 | Баранаваньне насеньня . | 3 | |
| 8 | Укатка вальцам . . . . | 2 | |
| | Разам . . . | 84 | |

Прымаючы пад увагу, што з дзесяціны балота атрымана ў сярэднім выка-аўсянага сена 320 п. па 40 кап. пуд., маем 128 руб. валавога прыбытку, а за вылічэньнем 84 руб. расходаў чысты прыбытак дасьць 44 руб. Гэта ў першы год культуры балот!

Таксама цікавы некаторыя назіраньні і за жыцьцём балота.

1. Зьмешчаны малюнак паказвае, што авёс (з падсевам шматгадовых траў) мае добрае разьвіцьцё, густы і зусім ня палягае.

2. У розных мясцох балота на рост расьлін мела уплыў грунтовая вада: чым яна глыбей ад паверха балота, тым расьліна расьце лепей.

3. Для данага балота (можа быць у гэтым годзе) адлегласьць паміж канавамі ў 20 саж. зьяўляецца вялікай.

4. Надзвычайна многа расьце сьмяцьцёвых траў па краёх канаў, у пасевах выка-аўсянай мешаніны гэта сьмяцьцё амаль што адсутнічае.

5. Пасевы лугавых траў у чыстым высеве бяз прыкрываючай расьліны патрабуюць ня менш, як двухразовай полкі.

7. Гароднія расьліны на балоце засьмечваюцца больш, чым на мінэральнай глебе.

8. Лён на балоце больш таўстасьцяблоны.

У заключэньне я хачу сказаць, што высьвятленьне на старонках „Плуга" практычных назіраньняў культуры балот прынясло-б вялізную карысьць сельскай гаспадарцы Беларусі.

Тыя сяляне, якія пабывалі на гэтым балоце, убачылі, якую карысьць дае культура балот. К будучаму году рыхтуецца больш 50 дзесяцін балота пад пасевы, а год таму назад амаль што ніхто і слухаць не хацеў пра ўраджаі сена на балоце ў 300 пудоў з дзесяціны. Сяляне Зубараўскага мел. т-ва кажуць: „*Пачакайце, гэта толькі першы* крок, мы *яшчэ павялічым ураджаі на балоце*!"

І яны не памыляюцца.

Аграном **І. Крупень**.

---

*) Даныя СЦК за 1924-25 г.

# Скарыстаньне торфу, як угнаеньне.

Балота пры асушцы дае сенажаць і поле. Апрача таго, яно дае нам торф, які ў сельскай гаспадарцы магчыма скарыстаць вельмі шырока. Торф ідзе на апал, подсьціл і, галоўным чынам, на ўгнаеньне.

Дзеля ўгнаеньня лепш усяго карыстацца зямлістым, перапрэўшым торфам з нізінных травяных балот. Імшаны-ж валакністы торф з вялікім посьпехам можа ісьці на апал і подсьціл.

Зямлісты торф трэба пратрымаць ня менш году на паветры, каб ён добра выветрыўся і тады скарыстаць яго на ўгнаеньне.

Запасаць торф трэба пачаць з восені. Восеньню яго капаюць і складаюць у кучы аршыны ў 2 шырыні і такой жа вышыні. У кучах торф пакідаюць на зіму, каб ён добра прамёрз. Робіцца гэта затым, што ў склад торфу ўваходзяць некаторыя шкодныя для расьлін матэрыі, ад якіх гэткім шляхам магчыма пазбавіцца. Лежачы ў кучах, торф робіцца пульхным, а дажджавая вада прамывае яго і ўносіць з сабою атрутныя часткі торфу. Добра таксама дабаўляць да торфу вапну.

Але яшчэ лепш угнойваць поле гное-тарфяным кампостам. Яго прыгатаўляюць такім спосабам: кладзецца пласт торфу 3-4 вярш. таўшчыні, шырынёю каля 3-х арш. і даўжынёю каля 6-7 арш. На торф кладзецца пласт гною, такой-жа таўшчыні. Далей ідзе зноў торф і гной. І так кладуць кучу арш. у $1\frac{1}{2}$—2 вышыні. Верхні пласт абавязкова павінен быць з торфу.

Праз 6 м-цаў кучу трэба перамяшаць, каб ніжнія пласты папалі на верх, а торф з гноем роўнамерна перамяшаўся. Пасьля гэтага куча ляжыць яшчэ 6 м-цаў і тады кампост ужо можа ісьці на ўгнаеньне. Такога гное-тарфянага ўгнаеньня ідзе на дзес. каля 2000 п., тады як чыстага торфу трэба класьці 4000 п. г. з. у 2 разы больш.

Торф можа і непасрэдна ісьці на ўгнаеньне поля, але імшаны лепш спачатку скарыстаць на подсьціл, а тады ўжо ўгнойваць ім поле. Робіцца гэта па такіх прычынах:

1) імшаны торф дае вельмі чысты і мяккі подсьціл;

2) захоўвае хлеў сухім, бо вельмі добра ўбірае ў сябе жыжку (1 ф. гэтага подсьцілу ўцягвае да 12—15 ф. вады, а 1 ф. саломы—3-4 ф.);

3) яшчэ ён убірае ў сябе некаторыя вельмі карысныя для сельскае гаспадаркі газы, як, напрыклад, аміяк. Пры саломістым подсьцілу ён звычайна траціцца праз вылучэньне ў паветра, тады як тарфяны подсьціл яго затрымоўвае ў сабе. А гэта вельмі цэнны газ. Калі ён унесен у глебу разам з тарфяным гноем, дык ён замяняе дарагую салетру.

Вялікае значэньне мае тарфяны подсьціл і яшчэ з аднаго боку. Ачышчаючы паветра хлявоў ад газоў і вільгаці, ён гэтым самым захоўвае жывёлу ад розных хвароб.

Здабываецца і вырабляецца тарфяны подсьціл вельмі проста. На асушаным балоце тарфяную масу ўзрываюць жалезнымі граблямі, высушваюць, зграбаюць у кучы і перавозяць пад павець, дзе ён і трымаецца ўвесь час.

Робяць яшчэ і так. Вырэзваюць торф роўнымі кавалкамі разьмерам $3 \times 2\frac{1}{2} \times 8$ вярш.; высушваюць гэтыя цэгліны там-жа на балоце і пасьля высушваньня таксама складаюць пад паветкай. Трымаць торф пад дахам абавязкова, бо ў час дажджу ён будзе моцна намакаць вадою.

Рэзаць торф можна цэлы год. На марозе пліты прамярзаюць, а вясною робяцца пульхнейшымі і лёгка расьціраюцца. Перад ужываньнем на подсьціл такі торф абавязкова трэба разьбіць на дробныя кавалкі.

Часьцей ужываюць торф на подсьціл так: кладуць пласт торфу, а зьверху пакрываюць саломай.

Тарфяны подсьціл дае дробны гной. Дзякуючы таму, што торф так добра ўбірае ў сябе вільгаць, ён хутка і роўнамерна згнівае і добра ўгнойвае поле.

Пры ўгнаеньні тарфяным гноем поля і адным торфам па Запольскай с.-г. дасьледчай станцыі (Ленінгр. губ.) досьледы далі такія вынікі:

| Угнаеньне | Колькасьць на дзес. у пуд. | Ураджай жыта ў пуд. на дзес. | Розьніца ўрадж. на дзес. у пуд. проці няўг. |
|---|---|---|---|
| Гной саломісты | 2.400 | 56 | 32 |
| Гной з торфу | 2.400 | 78 | 54 |
| Адзін торф | 4.800 | 60 | 36 |
| Без угнаеньня | — | 24 | — |

Досьледы паказалі, што гной з тарфянога подсьцілу робіць уплыў прыметным на другі і трэці год. Вось што гавораць лічбы ўраджаяў тэй-жа Запольскай дасьл. станцыі:

| Угнаеньне | Уаджай у пуд. на 1 дзес. | | |
|---|---|---|---|
| | 1-й год жыта | 2-й год бульба | 3-й год авёс |
| Гной з саломы | 50 | 259 | 30 |
| Гной з торфу | 60 | 445 | 39 |
| Адзін торф | 54 | 300 | 35 |

Вось яшчэ прыклад ужываньня торфу, як угнаеньня на сялянскім полі. У Вяцкай губ. на сялянскіх палёх быў пастаўлен досьлед угнаеньня торфам у колькасьці 300 вазоў на дзес. Уплыў торфу выявіўся ў такіх лічбах:

| | Зярна | Прыбаўка |
|---|---|---|
| азімае жыта па торфу | 101 п. | 44 п. |
| „ „ бяз угнаеньня | 58 „ | — |

Немагчыма маўчаць і аб выніках, якія атрыманы пры ўжываньні торфу на ўгнаеньне ва ўмовах Беларусі. Вось ураджаі азімага жыта, атрыманыя на лёгкіх суглінках Горацкай с.-г. дасл. станцыі:

| | Зярна | Прыбаўка |
|---|---|---|
| Па гною | 169 п. | 88 п. |
| Па торфу | 128 „ | 47 „ |
| Без угнаеньня | 81 „ | — |

Кароткі агляд вынікаў дасьл. станцый і досьледаў па культуры балот па сялянскіх вучастках, а таксама вялікая плошча забалочанай зямлі на Беларусі яскрава гаворыць нам аб неабходнасьці разьвіцьця мэліорацыі і скарыстаньня балот.

Правільна разьвязаўшы пытаньні мэліорацыі, мы гэтым самым вырашым пытаньне малазямельля, нястачу корму і выгану, а таксама паможам падняць ураджайнасьць нашых палёў, дзе 300 гадоў панавала трохпалёўка.

(Г. Горкі). **А. Берзін.**

---

# Аб асеньнім вырабу поля.

Усе прыёмы апрацоўкі глебы падзяляюцца на *апрацоўку папару, апрацоўку іржышча пад ярыну, апрацоўку задзярнелага поля* (дзірвана) і *перадпасеўны выраб поля.*

Пры нашых нізкіх ураджаях і высіленых глебах замацаваньне культурных прыёмаў апрацоўкі глебы яшчэ доўга будзе мець асаблівае значэньне. Падвышэньне ўраджайнасьці глебы ёсьць адна з галоўных задач беларускага земляроба.

Аднак зараз будзе больш на часе затрымацца толькі на апрацоўцы іржышча альбо вырабу глебы пад ярыну. Таксама скажам некалькі слоў і аб значэньні вырабу поля наогул.

Кожны ўраджай уносіць пажыўныя матэрыі з глебы, і для новага ўраджаю тым ці іншым спосабам глеба павінна ізноў узбагаціцца імі. Пры ўгнаеньні поля мы далёка не зьвяртаем яму ўсяго таго, што ўзяў ураджай. Калі поле ўгнойваецца і праз тры гады па 2.400 пуд. гною на дзес., дык на кожны год будзе прыпадаць 800 пуд., а сухой матэрыі толькі 200 пуд. на дзес.

Апрача гною ў зямлі ад кожнага ўраджаю застаюцца карэньні, а на паверхні іржышча, бацьвіньне, сарнякі. Усё гэта пры зворваньні і далейшым вырабу поля перагнівае, чаму далей і ўтвараюцца мінэральныя солі, якія толькі і могуць выкарыстоўвацца карэньнямі нашых расьлін. Напэўна, расьліны будуць лепш расьці і даваць высокі ўраджай толькі тады, калі запас органічнай масы ў глебе будзе значным і калі ўмовы для яе раскладаньня (мінэралізацыі) будуць спрыяючымі. Адсюль зразумела, што перад земляробам заўсёды паўстаюць дзьве задачы—як мага павялічваць органічную масу ў глебе, і з другога боку, культурнаю апрацоўкаю поля спрыяць яе раскладу.

Прыметнае намножаньне ў глебе расьліннай (органічнай) масы, апрача гною, дае канюшынішча, карэньні шматгадовых траў, зялёнае ўгнаеньне (лубін, сэрадэля, грэчка) і інш.

Гэтым шляхам палучаецца амаль галоўны запас органічнай масы глебы (да 3—5%), тады як гной нават і ў паказанай ўжо норме дае толькі да 0,1% органічнай масы[1].)

Цяпер паглядзім, пры якіх умовах і як можа ісьці раскладаньне органічнай (расьліннай) масы глебы.

З папярэдняга артыкула („Чаму патрэбен добры выраб поля", „Плуг" № 7, стар. 9) вядома, якую вартасьць мае *дробнакамкаватая глеба* і чым яна адрозьніваецца ад *разьдзельназёрнай.*

---

[1]) На асаблівым значэньні канюшынішча і карнёвых рэштках шматгадовых траў больш падрабязна затрымаюся пры гутарцы аб вырабе дзірвана.

Калі глеба разьдзельназёрная, дык яна будзе характарызавацца тым, што яе паасобныя часткі (зёрны) будуць шчыльна налягаць адны на другія. Паміж зёрнамі глебы будуць толькі тоненькія, як волас, трубкі, па якіх увесь час і будзе праходзіць вада: у сухую пагоду зьнізу ўверх, а ў дождж з паверхні глебы ў глыбіню. Паветра-ж у такую глебу праходзіць ня будзе, бо ўсе ходы заняты вадою. А раз ня будзе паветра, дык уся расьлінная маса глебы ня будзе гніцьці, раскладацца і пераходзіць у формы мінэральных солей, якія толькі і патрэбны карэньням расьлін.

З другога боку, калі-б мы ўзялі другі тып глебы, дзе ўжо празьмерна шмат паветра, дык там пры наліччы яшчэ вады і цяплыні органічная (расьлінная) маса будзе раскладацца вельмі бурна. Раскладаньне гэта будзе праходзіць ўвосень ці рана вясною, калі на полі няма пасеваў і калі, значыць, утварыўшыяся мінэральныя солі свабодна будуць апускацца ўглыб альбо змывацца на нізіны грунтоваю вадою.

Такім чынам, трэба лічыць шкодным для нормальнага раскладу органічнай масы глебы і занадта багаты прыток паветра. Лепш усяго было-б гэтыя два працэсы раскладу органічнай масы глебы (бяз доступу і пры доступе паветра) аб'яднаць разам. Тады-б органічная маса мінэралізавалася-б паступова і зараз-жа скарыстоўвалася-б карэньнямі расьліны.

Якраз гэтыя два процэсы раскладу органічнай масы, як найлепш і аб'яднаны ў глебах камкаватых (структурных). Як мы ўжо ведаем, камкаватыя глебы складаюцца з дробных камкоў у 5—10 мм., а кожны камок як-бы склеен органічнай масай з паасобных зёран пылаватай глебы. У такім разе паміж камочкаў вольна можа праходзіць паветра і выклікаць на іх паверхні расклад (мінэралізацыю) органічнай масы. З раскладам органічнай масы на паверхні камочка, камочак з паверхні будзе абсыпацца, але ўглуб яго паветра ня будзе даходзіць, бо там ёсьць толькі тонкія (валасныя) трубачкі, якія заняты вадою. Вось па гэтай прычыне камкаватая глеба і лічыцца найлепшай для нормальнага раскладу органічнай масы.

Такім чынам, і тут мы прыходзім да неабходнасьці стварэньня ці падтрыманьня камкаватай пабудовы глебы. Несваечасовым ці няўмелым вырабам іржышча вельмі лёгка зьнішчыць камкаватую пабудову глебы, якую ўдалося стварыць пры папарнай апрацоўцы поля.

Аднак і пры вырабе іржышча трэба лічыцца з усімі гаспадарчымі мажлівасьцямі, як з тым, наколькі ёсьць час і г. д. А вядома, што нашы сяляне пры вырабе іржышча заўсёды позьняцца праводзіць гэту працу. Часьцей усяго воранка бывае ўвосень, і поле да гэтага часу ідзе пад бедны выпас, утаптваецца, зарастае сарнякамі і выпарвае ваду. Познае ворыва мала ўжо дапамагае падтрыманьню камкаватай пабудовы глебы—глеба становіцца дробназёрнай і органічная маса раскладаецца дрэнна. Заворанае сухое іржышча цяпер будзе раскладацца зусім па-іншаму, а іменна: на ім асяляюцца грыбкі і мікробы, якія ва ўрон гаспадару вылучаюць у паветра свабодны азот. Такія будуць вынікі познай апрацоўкі іржышча.

Культурныя-ж прыёмы вырабу іржышча патрабуюць заворваньня яго зараз-жа за прыборкаю ўраджаю. Але правесьці гэту працу ня кожная гаспадарка можа. У такім разе трэба вітаць, дзе пачынае шырока пашырацца мелкая пажніўная воранка (лушчэньне), якая пра-

водзіцца многалямешнымі плугамі і патрабуе менш часу. За гэтай мелкай воранкай увосень ідзе ўжо воранка на поўную глыбіню.

Гэту раньнюю і мелкую воранку трэба прымяняць усім нашым сялянам. Асабліва яна неабходна пры вырабе поля пад бульбу, караньплоды і г. д.

Раньняя мелкая воранка цікава яшчэ і тым, што з часу яе правядзеньня і да самай восені на такім полі праходзіць яшчэ як-бы папарны выраб поля. На полі зьнішчаюцца сарнякі і найлепш *утвараецца камкаватая пабудова глебы.*

Думаю, што ўсе спрэчкі аб тым, калі лепш араць пад ярыну—увосень ці вясною—тут не павінны мець месца. Без пажніўнага лушчэньня ні тое ні другое ворыва ня можа лічыцца здавальняючым і, значыць, культурным.

Арэце поле зараз-жа пасьля прыборкі ўраджаю!

С. Тупяневіч.

---

# Як падняць высокі ўраджай аўса.

У 1922 годзе я атрымаў пасёлак на зусім пустой зямлі. Зямля гэта дзесяткі гадоў не гнаілася, бо аддавалася сеяць на часьць акружаючаму насельніцтву. Кожны сеяў толькі жыта ды авёс бяз гною.

У 1922 годзе і я пасеяў там авес, які даў ня больш 30 пуд. з дзес. Такі ўраджай бываў і ў майго бацькі, калі ён сеяў там на часьць. Але зімою ў 1923 г. я пачаў абзаводзіцца с.-г. бібліатэкай. Купіў кніжку „Знание—сила“. Прачытаўшы я трохі разабраўся па некаторых галінах сельскай гаспадаркі. Паняў, што няма дрэннай зямлі, а ёсьць дрэнны гаспадар.

Тут я ўжо разабраўся, што мая зямля спустошана толькі аднастаронна. Пачаў падбіраць севазварот з кніжак, але ніяк ня выходзіла. Падабраў сам і завёў так:

1-я зьмена—лубін (набірае азоту).
2-я „ —бульба (ачышчае поле ад сарнякоў).
3-я „ —авёс з падсевам канюшыны (яна паляпшае поле).
4—5-я —канюшына.
6-я „ —жыта.

Правёўшы на пустой зямлі паказаны парадак чаргаваньня расьлін, я цяпер павысіў ураджай аўса на 75 проц.

Глеба ў мяне—лёгкі суглінак. Заворваю ўвосень на поўную глыбіню. Зімуе ў пластох. Вясною, як толькі зямля стане прасыхаць, скараджу. Далей скарадзьбу паўтараю два-тры разы. У пачатку чэрвеня ару на поўную глыбіню і зараз-жа сею лубін на зялёнае ўгнаеньне, дзе ён і зімуе незавораны. Вясною даю паўгной (1200 п.) і сею бульбу. Ураджай бульбы даходзіць да 2.000 пуд. Пасьля бульбы сею авёс у першай палове мая. Авёс расьце надта добра. У 1925 годзе з $^2/_3$ дзес. я намалаціў 88 п., у 1926 г. пры такім чаргаваньні таксама авёс быў на 50 проц. вышэй суседніх. На выстаўцы ў „Дзень Ураджаю“ мой авёс займаў першае месца.

Сеяць авёс за бульбаю ёсьць выгада ў тым, штс ён дае высокія ўраджаі і на рынку пад вясну расцэньваецца вышэй другіх зярновых.

У мяне авёс мясцовы, але я ачышчаю яго як мага лепей.

Сел. К. Запольскі.

(Сьмілаўскі р.).

---




## Вопыт з лёнам-даўгунцом.

Шмат хто з нашых сялян чулі аб лёну-даўгунцу, але вельмі мала хто яго сеяў, бо баяліся што толькі папсуюць насеньне, а карысьці ня будзе. Толькі с.-г. курсы, якія адбыліся зімой у сельсавеце прымусілі нашых сялян задумацца над пасевам лёну-даўгунца.

Аднак, ня ўсе сяляне спрабавалі ў сябе пасеў гэтага лёну, а папрасілі аграномаў, каб яны, каля нас дзе-небудзь зрабілі досьлед з лёнам-даўгунцом.

Аграномы зьвярнулі ўвагу на гэта і ў гаспадарцы селяніна Ф. Калінкевіча залажылі досьлед параўнаньня культуры мясцовага лёну і даўгунца на 240 кв. саж. Плошча была разьбіта так:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Дз. № 1. Лён-даўгунец. | Дз. № 2. Лён-даўгунец + калійная соль 6,5 ф. | Дз. № 3. Лён мясцовы. | Дз. № 4. Лён мясцовы + калійная соль 6,5 ф. |
| Дз. № 8. Лён мясцовы + калійная соль 6,5 ф. | Дз. № 7. Лён мясцовы. | Дз. № 6. Лён-даўгунец + калійная соль 6,5 ф. | Дз. № 5. Лён даўгунец. |

Кожная дзялянка мела па 30 кв. саж. На дзялянкі №№ 2, 4, 6 і 8 было паложана калійнай солі на дзесяціну 13 пуд.

Сеяўся лён адначасова (2-VI) па канюшынішчы. Першая воранка рабілася параконным плугам „Фенікс“. Выбіраўся лён 5-VIII. Пры вучоце ўраджаю былі вось якія вынікі (пры чым, вучоту валакна ня было):

| №№ дзял. | Чым была ўгноена. | Колькі з дзял. | Ураджай з дзес. | №№ дзял. | Чым была ўгноена. | Колькі з дзял. | Ураджай з дзес. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | фун. | пуд. | | | фун. | пуд. |
| 1. | Лён-даўгунец. . . . | 15 | 30 | 5 | Лён-даўгунец. . . . | 15,3 | 31 |
| 2. | Лён-даўгун. + кал. соль 6,5 ф. . . . . . . | $18\frac{1}{2}$ | 37 | 6. | Лён-даўгун. + кал. соль 6,5 ф. . . . . . . | 18,7 | 38 |
| 3. | Лён мясцовы . . . . | $15\frac{1}{2}$ | 31 | 7. | Лён мясцовы. . . . | 14,4 | 29 |
| 4. | Лён мясцовы + калійная соль 6,5 ф. . . . | $18\frac{1}{2}$ | 37 | 8. | Лён мясцовы + калійная соль 6,5 ф. . . . | 17,8 | 35 |

Вось вынікі прымяненьня калійнай солі на ўраджай мясцовага лёну і лёну-даўгунца.

Як відаць, то лён-даўгунец дае большы ўраджай нават насеньня.

Ураджай валакна ад лёну-даўгунца пэўна яшчэ больш будзе адрозьнівацца.

Пры адным угнаеньні калійнай сольлю ўраджай семя з дзесяціны быў большы на 6—7 пудоў.

Другі такі-ж досьлед быў зроблен на мяккай глебе, па іржышчы. Успашка такая-ж, як і ў першым выпадку. Час пасеву 2-VI, а час прыборкі на ўсіх дзялянках 8-VIII-26 г. Угнаеньне было адно. Дзялянкі мелі адну форму, адзін ухіл. Адным словам, усё было аднолькавае толькі, што тут было іржышча, а не канюшынішча.

Пры вучоце ўраджаю былі вось якія вынікі:

| №№ дзял. | Які лён, чым угноен | Урадж. дзял. у фунт. | Ураджай на дзес. у п. | №№ дзял. | Які лён, чым угноен | Урадж. дзял. у фунт. | Ураджай на дзес. у п. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Лён-даўг. . . . . . | 8 | 16 | 5 | Лён-даўг. . . . . | 8 | 16 |
| 2 | Лён-даўг.+к. соль 6,5 ф. | 9 | 18 | 6 | Лён-даўг.+к. соль 6,5 ф. | 9 | 18 |
| 3 | Лён мясцовы . . . . | 8 | 16 | 7 | Лён мясцовы . . . . | 8 | 16 |
| 4 | Лён мясц.+к. соль 6,5 ф. | 9 | 18 | 8 | Лён. мясц.+к. соль 6,5 ф. | 9 | 18 |

У гэтым прыкладзе, як бачым, ня было ніякай розьніцы, ва ўраджаі насеньня але лён-даўгунец быў лепшы за мясцовы лён. Вучот валакна таксама ня зроблен.

Сел. **Сялюкін.**

---

# Уплыў попелу і мінэральных угнаеньняў на сенажаць.

Аднэй з галоўных прычын кепскага становішча нашай сялянскай гаспадаркі зьяўляецца адсутнасьць сенажацяй. Няма добрай сенажаці— няма сена, а разам з гэтым няма ў гаспадарцы і скаціны. Зямелька застаецца няўгноенай, ураджаі з кожным годам зьмяншаюцца.

Хаця наша Беларусь лічыцца багатай на сенажаці, але сенажаці нашы вельмі малакарысныя; яны альбо балотныя з асакою, хвашчом, бабоўнікам або сухадольныя, на якіх расьце выключна адзін сівец. Рэдка дзе сустракаецца добрая, заліўная сенажаць, якая дае 100-150 пуд. добрага мурожнага сена.

Звычайна-ж селянін з сухадольнай, палявой сенажаці мае 60-80 пуд. сіўцу, якога нават козы і авечкі ня хочуць есьці. А колькі поту пральле селянін, пакуль паміж курганаў наабівае пласт сіўцу.

З кожным годам на сенажаці ўсё менш і горш расьце трава, і ня дзіва; ня можа-ж сенажаць усё даваць ды даваць; скуль-жа браць ёй пажыўныя матэрыялы, калі мы ад яе штогодна адбіраем столькі сена.

Ня буду вучыць, як даглядаць сенажаць і як яе ўгнойваць. Кожны, хто жадае аб гэтым даведацца, можа пачытаць.

Я ў гэтым годзе таксама паспрабаваў палепшыць сенажаць і вынікі атрымаў досыць добрыя.

Быў у мяне невялічкі кавалак сенажаці, напалову забалочаны, заімшэлы, дзе дзякуючы моху нічога не расло, з якога я накошваў усяго 60 пуд. кепскага сена. Рана вясною, калі зямля яшчэ не адтала добра, я прабаранаваў гэту сенажаць звычайнай бараною з жалезнымі зубамі ў чатыры сьляды. Адмерыўшы на гэтым кавалку 240 кв. саж., я расьсеяў на ім каля 6 пуд. попелу з печы. Тут-жа, радам, высеяў на 120 кв. саж. 15 фун. супэрфосфату і 10 фун. калійнай солі, а праз два тыдні—20 фун. адгашанай вапны. Пасьля гэтага ізноў пабаранаваў у два сьляды.

Вынікі атрымаліся наступныя: на дзялянцы з попелам зьявіліся новыя раней тут не сустракаўшыяся травы. Трава зрабілася гусьцейшай, сочнай, мох амаль што зусім прапаў. З гэтага кавалку накасіў невялічкі вазок сена, пудоў 10-12.

Дзялянка з мінэральнымі ўгнаеньнямі таксама аддзялілася ад няўгноенай сенажаці, але яна была вельмі падобна да першай. Таксама зьявіліся і там новыя травы, моху і звычайных для гэтай сенажаці кіслых траў (асакі, цыбулькі) зусім ня было. Накошана з яго 7 пуд. сена.

Для параўнаньня ўзяў пабаранаваную, але няўгноеную сенажаць адмераўшы 240 кв. саж. Моху амаль што не адбавілася, трава не зьмянілася, толькі зрабілася гусьцейшай. Накасілі з яе усяго 7 пуд., а суседняя сенажаць, нескароджаная на такім самым кавалку дала 5 пуд.

На першы погляд, здаецца, што аўчынка вырабу ня варта. Але тым часам выгляд сенажаці зьмяніўся, я ўпэўнен, не на адзін год. Апрача гэтага прызнаюся, што я зрабіў вялікую памылку, што не падсеяў розных траў, што павысіла-б ураджай сенажаці.

**П. А. Самцэвіч.**

(в. Цакудава, Крупск. р.)




# Аб разьмеркаваньні лесу сярод насельніцтва.

Большь-менш правільнае разьмеркаваньне лесу дзеля патрэб сялянства мае вялікае значэньне. Тут перш за ўсё, пры ўдачным разьмеркаваньні лесу, мы будзем мець здавальненьне самога салянства, а падругое, будзем ісьці вернымі крокамі ў напрамку адбудовы нашай вёскі. Ніхто ня будзе супярэчыць, што дзеля палепшаньня сялянскай гаспадаркі перш за ўсё трэба мець такія абставіны, у якіх бы гаспадар з сваёй сям'ёй меў бы добрую прасторную хату, будынкі дзеля жывёлы і скарбу, як розная збажына і сена.

Мы ведаем добра, чаго стоіць будоўля: на яе трэба ўлажыць усе свае сродкі ды яшчэ шмат запазычыць. Куды-ж тут разводзіць травы, кораньплоды і пашыраць угнаеньне глебы, калі на пабудову трэба скарачаць жывёлу.

Вядома, будавацца цяжка, але гэта неабходная патрэба, без якой далей немагчыма існаваць. Таму, усякія недахопы з гэтага боку і выклікаюць шмат недавольства. Мне здаецца, што ў напрамку разьмеркаваньня лесу трэба было-б абменяцца думкамі з розных бакоў на старонках сялянскай часопісі „Плуг", які чытаецца амаль што ўсімі граматнымі сялянамі. Гэта дало-б магчымасьць найсьці шляхі і спасобы больш-менш правільнага размеркаваньня той будоўнай драўніны, якая штогодна вызначаецца дзеля здавальненьня патрэб сялянства; а гэта балючае пытаньне і яно патрабуе ў кожным разе асаблівага падыходу і можа вырашацца толькі на мясцох, дзе больш відавочны ўсе „мясцовыя ўмовы".

Я лічу ня лішнім тут спыніцца на тым, як наогул робіцца ў нас разьмеркаваньне лесу, вызначанага дзеля водпуску, як сялянам, так і прамысловасьці.

Дзеля разьмеркаваньня лесу ў нас існуюць камісіі:

*1) Цэнтральная Лясная Гандлёвая Камісія* пры Лясным Кіраўніцтве.

*2) Акруговая*—пры Акруговым Інспэктарыяце лясоў.

*3) Раённая*—пры Райвыканкоме.

*і 4) Сельская*—пры Сельсаветах.

Кожная з гэтых камісій мае свае абавязкі і правы.

Сельская камісія вядзе вучот на вёсцы падворна: колькі і каму патрэбна драўніны на наступаючы год, а таксама колькі лесу патрэбна на рамонт мастоў, дарог і мясцовых устаноў.

— *Раённая*—разьмяркоўвае лес сярод с.-с. і вядзе вучот, колькі драўніны патрабуюць установы і будынкі раённага значэньня.

— *Акруговая*—выяўляе патрэбнасьць у драўніне ўсёй акругі па весткам раённых камісій і вызначае колькасьць драўніны, якая патрэбна ўстановам акруговага значэньня.

Цэнтральная камісія пляніруе водпуск драўніны між прамысловасьцю і мясцовымі патрэбамі і канчаткова вырашае, колькі драўніны па кожнаму Л-ву вызначаецца мясцоваму насельніцтву і прамысловасьці.

Такім парадкам, сельская камісія ўсю сваю працу вядзе ў напрамку выяўленьня патрэбнасьці ў драўніне сялянства. Ад яе ўмелага падыходу залежыць, як будзе скарыстаны гадовы водпуск лесу. Калі гэта камісія павялічыць водпуск насельніцтву і яно па сваім сродкам ня зможа купіць, тады гэта значна адаб'ецца на агульным бюджэце Дзяржавы: лес, які можна было адпусьціць у большым ліку прамысловасьці, застанецца на пні, і мы будзем мець недабор грошай, якія-б маглі пайсьці на агульны дабрабыт народнай гаспадаркі. Ад гэтуль само сабой зразумела, што сельскія камісіі павінны найбольш уважліва выяўляць неабходную колькасьць драўніны сялянству, каб ня ўнесьці дэфіцыту ў агульны бюджэт і не пакінуць нашу прамысловасьць бяз належнага сыр'я і патрэбнага ёй будаўніцтва. Тут таксама неабходна застанавіцца крыху на той магчымасьці, якую мы маем перад сабою, каб здавальняць лесам насельніцтва і прамысловасьць. Перш ўспомнім (з артыкулаў ў аддзеле лясной гаспадаркі, якія зьмешчаліся ў папярэдніх нумарох „Плуга“), што лясы ў нас займаюць ня надта вялікую плошчу. Таксама і вытворчасьць іх ня вельмі ўжо значная. Ад гэтуль мы і павінны памятаваць, што з лесам трэба быць скупым і ня вельмі ім раскідацца. Вось па ўсіх апошніх лічбах і выяўлена, што ў сярэднім на бягучы і наступныя гады ў нас на Беларусі на аднаго жыхара ў год можна адпусьціць $^1/_5$ куб. мэтра будоўнай драўніны, а на гаспадарскі двор (калі ў сярэднім ўзяць на яго 5 душ) будзем мець ($5 \times ^1/_5$)—1 куб. мэтр. будоўнай драўніны. Калі, напрыклад, лічыць вёску ў сярэднім у 50 двароў, то ёй павінны прызначыць 50 куб. мэтраў будоўнай драўніны. З гэтага ліку кубатуры будоўнай драўніны выйдзе адна хата з сенцамі і хлеў альбо гумно сярэдніх разьмераў на 8 дзес. зямлі. Калі перавесьці 50 куб. мэтраў на паасобныя дрэвы якія будуць патрэбны на адзначаныя будынкі, дык палучым: *50 пнёў* лесу таўчынёю 5-6-7 вяршкоў, *10 пнёў*—8-9 вяршк., *35—40 пнёў* 4-5 вершковых і каля *100 штук* дробных будоўных дрэў 2—3 верш. (латы).

Як бачым з прыведзеных лічбаў, становішча нашых лясоў ня цікавае, калі мы толькі можам даць на вёску ў 50 двароў,—дрэў у ліку ня больш, як на пабудову аднэй хаты і гумна. А тут яшчэ прыдзецца здавольваць сялянства дрэўнінай на розны рамонт будынкаў, які бязумоўна неабходзен таму ці іншаму гаспадару штогодна.

Ня гледзячы аднака на такую малую норму, якая ў нас выпадае на кожны сялянскі двор, трэба адзначыць, што фактычна лесу сялянства атрымлівае шмат больш.

Цяпер зьяўляецца запытаньне: „Адкуль-жа можна атрымаць больш, калі такі разьлік дае сучаснае становішча нашых лясоў?“.

Тут можа быць толькі такі адказ:

1. Усе гэтыя разьлікі зроблены прыблізна, калі яшчэ вельмі на малой плошчы лясоў прайшло лесаўпарадкаваньне, а мы на практыцы мелі

здарэньні, што пасьля лесаўпарадкаваньня шмат з якіх лясных дачаў карыстаньне драўнінай павялічвалася.

2. Лічба земфондаў таксама павялічвалася, бо шмат дробных кавалкаў лесу яшчэ ідзе пад высечку пасьля лесаўпарадкаваньня (розныя абрэзкі).

3. Дзякуючы лесаўпарадкаваньню павялічыліся прачысткі, прарэджваньне, прахадныя высечкі, выбар насеньнікаў, перастою і гарэлага лесу.

4. Лесаўпарадкаваньне дало звышчарговыя карыстаньні, пашырэньне квартальных прасек, пракладка таксацыйных візіраў і інш.

5. Карыстаньне драўнінаю павялічваецца ад лесаўпарадкаваньня лясоў мясцовага значэньня і дзяржаўнага ляснога фонду.

6. Прыродныя няўзгоды, асабліва ў гэтым годзе павялічылі лік буралому і ветравалу, што таксама дало больш лясной прадукцыі на збыт.

7. Фактычнаму павялічэньню ў здавальненьні сялянства драўнінаю дапамагаюць тыя дробныя лясныя вучасткі, якія не перавышаюць аднэй дзесяціны па плошчы і перайшлі ў карыстаньне сялянства, а потым зусім ня браліся ў разьлік.

Вось гэта тыя зьявішчы ў агульнай лясной гаспадарцы, якія павялічылі фактычна водпуск лесу сялянству.

Праўда, тут шмат ёсьць выпадковага, што на далейшы час прыпыніцца, але ўсё-ж такі трэба думаць, што ў бліжэйшыя гады здавальненьне сялянства драўнінай будзе крыху большае, чым гэта відаць з прыведзеных вышэй лічбаў.

Заўважыўшы ўсё вышэй адзначанае, мы павінны сказаць, што ў нас будоўнай драўніны маецца на здавальненьне сялянства толькі, як кажуць, у абрэз. А калі гэта так, дык і разьмяркоўваць яе трэба сярод сялянства самым талковым спосабам, каб ня было такіх здарэньняў, што адзін пабудаваў новую хату і прадаў яе, ды зноў бярэ лес на другую, а іншы ніяк не дастукаецца лесу і на адну да зарэзу патрэбную будыніну. Тут таксама трэба мець нейкую плянавасьць, якую я афармляю так:

1. Рашуча і зусім адказацца ад дзялёжкі прызначанага сялянам лесу, па некалькі пнёў на кожны двор, бо такім парадкам лес разыдзецца і ніякой будовы мы ня ўбачым.

2. Неабходна на кожную вёску даць лесу на аднаго хоць гаспадара на цэлую будыніну (хату, гумно, ці хлеў).

3. На рамонты вызначаць толькі таму, каму вот цяпер неадкладна трэба яго рабіць.

4. Сачыць за тым, каб лес атрыманы селянінам пашоў па яго вызначэньню.

5. Весьці рашучую барацьбу з перапрадажай лесу, бо гэта толькі дае магчымасьць узмацненьню спэкуляцыі ў вёсцы і тым самым выклікае нездавальненьне беднаты.

6. У першую чаргу здавальняць сялян, якія выходзяць на пасёлкі.

7. Пры вызначэньні лесу таму ці іншаму селяніну, трэба на месцы вырашаць яго магчымасьць аплаціць гэту драўніну, каб ня мець такіх здарэньняў, што на лес ён запісаўся, яму прызначылі, але у працягу ўсяго пэрыяду водпуску ён ня можа яго выкупіць. К часу-ж новага бездарожжа гэты лес пойдзе абы каму, хто ня мае ў ім і пільнай патрэбы.

8. Пры разьмеркаваньні лесу той ці іншай вёсцы трэба прыблізна хоць заўважаць, колькі і якога лесаматар'ялу можна атрымаць з лясоў мясцовага значэньня, альбо невялічкіх кавалкаў земфондаў, якія знаходзяцца ў карыстаньні паасобных сялян, каб ведаць, якой драўніны тут зусім няма і якая ёсьць. Так, напрыклад, вёска мае нават шмат лесу мясцовага значэньня, але з яго можна атрымаць драўніну толькі на халодныя будынкі, значыць пры разьмяркоўваньні лесу з дзяржаўнага фонду, трэба ей прызначыць толькі лес на хаты, альбо на шулы ў гумно ці хлеў, ці часам якую колькасьць на пілоўку. Наадварот, калі маецца буйнейшы лес, тады вызначыць толькі танкамерны.

9. Заўсёды пры разьмеркаваньні лесу трэба прытрымлівацца, каб лес, асабліва бяднейшае сялянства, па магчымасьці змагло атрымаць з бліжэйшых лясных вучасткаў.

10. У камісіі на вёсках неабходна пры разьмеркаваньні лесу між сялянамі прыцягваць да гэтай працы бескарысных сялян, якіх можна выбраць на сходзе.

Вось тыя неабходныя заўвагі, якія павінны быць прыняты пад увагу пры разьмеркаваньні лесу сярод насельніцтва.

У працах сельскіх лясных камісій шмат дзе прыняты такія крокі, але іх трэба павесьці больш рашуча. Асабліва трэба зьвярнуць увагу на разьмеркаваньне лесу, які вызначаецца з лясоў мясцовага значэньня, бо там увесь час, ідзе разьмеркаваньне па некалькі дрэў на кожны двор, а сельскія лясныя камісіі на гэта не зварачаюць увагі. Трэба ведаць, што і з лясоў месцовага значэньня лес павінен разьмяркоўвацца так, як і з дзяржаўнага фонду: не падворна, а па патрэбнасьці.

Калі ажыцьцявіць усё адзначанае, тады мы падыдзем больш менш к правільнаму разьмеркаваньню лесу сярод насельніцтва.

**Т. Гаўрыловіч.**

Нёманскае л-ва.

---

# Лясная коопэрацыя і сялянства.

Кожны селянін ужывае лес дзеля сваіх хатніх патрэб, апалу, будаўніцтва і апрача таго, ён карыстаецца ім дзеля вырабу розных матар'ялаў на продаж, як напрыклад, дровы, бярвеньня, шпалы і інш.

Але атрымаць лесасеку дзеля такой распрацоўкі паасобна кожнаму селяніну немагчыма, бо такія лесасекі прадаюцца з таргоў і селяніну сярэдняга дастатку яны не падойдуць з прычыны сваёй даражызны. А, між тым, бяз іх сялянству лясных мясцовасьцяй не пражыць. Вось з прычыны гэтага Савецкая ўлада ўстанавіла такі парадак водпуску лесасек, дзеля распрацоўкі іх на продаж, пры якім і дзяржава не цярпела-б страт і маламоцнае і серадняцкае сялянства магло-б атрымліваць лесасекі і карыстацца імі дзеля ўзмацненьня сваіх гаспадарак.

Праўда, парадак гэты яшчэ толькі ўводзіцца, а з прычыны гэтага, як і ўсякая навіна, мае шмат недахопаў, якія перашкаджаюць правільна, і карысна весьці распрацоўку лясных вучасткаў, але ўсё-ж цяпер ужо ёсьць магчымасьць атрымаць даход ад лесараспрацовак.

Каб атрымаць магчыма больш гандлёвых лесасек, сялянству неабходна аб'яднацца і організоўваць сялянскія лесапрамысловыя копэратывы.

Сяляне, якія ўвайшлі ў лясную коопэрацыю, лічацца сябрамі лясных коопэратываў, іх называюць яшчэ лесапрамысловымі арцелямі ці таварыствамі. У СССР такіх арцеляй 1500 і ўваходзіць ў іх сябрамі сялян каля 90.000 асоб. Кожны член уносіць у сваё т-ва пай (звычайна 8-10 руб.) і, такім чынам, кожнае т-ва мае свае, хаця і невялікія, але ўласныя сродкі.

Т-вы, якія разьмешчаны ў аднэй мясцовасьці (у адным лясным масыву ці па аднэй рацэ) яднаюцца ў коопэрацыйныя саюзы, а саюзы ў сваю чаргу лічацца членамі Ўсесаюзнага Коопэрацыйнага Ляснога Саюзу—Усеколесу, які знаходзіцца ў Маскве.

У шмат якіх мясцох нашага Саюзу (на Волзе,—Вятлузе, на Поўначы) сяляне ўжо зразумелі, што адзіны шлях павялічыць свае даходы ад лесу—лясная коопэрацыя. Яны яднаюцца ў арцелі і з вялікім посьпехам вядуць сваю працу. Але ёсьць і такія раёны, дзе гэтага яшчэ няма, і там сялянства павінна ўзяцца за організацыю гэтых т-ваў.

Трэба памятаць што, калі ў т-ва не хапае сродкаў на лесазагатоўкі, дык ім дапамагае грашыма Саюз Усеколес.

Як організаваць т-вы, як распачаць і весьці сярод іх працу—аб усім гэтым можна даведацца ў бліжэйшым лясным саюзе ці аддзяленьні Ўсеколеса.

**Б. Ліпкін.**

---



# Жывёлагадоўля

## Конкурс малочнасьці ў Менскай акрузе.

У Кожнай гаспадарцы звычайна пакідаюць на племя найбольш прадукцыйную жывёлу.

Выявіць прадукцыйнасьць жывёлы лягчэй усяго праз тыднёвыя конкурсы малочнасьці. Такія конкурсы трэба праводзіць з магчыма большай колькасьцю кароў і ў час, калі каровы даюць самыя вялікія ўдоі малака. Гэтакім шляхам магчыма будзе абраць лепшых кароў для далейшай племяной працы над імі.

„Даеш больш малака і жыру"—вось умовы, якія ставіць конкурс сваім экспонатам.

У 1927 годзе ў Менскай акрузе былі ў першы раз праведзены конкурсы дзеля выяўленьня прадукцыйнасьці кароў. Вяліся яны на працягу чэрвеня і першай паловы ліпня м-цаў у трох раёнах: Самахвалавіцкім, Койданаўскім і Заслаўскім пры 6-ці малочных арцелях—Крупецкай, Кацягскай, Новасацкай, Цяўлаўскай, Чачкоўскай і Гуцанскай. Спачатку на конкурс было запісана 116 кароў, але пасьля 23 каровы былі зьняты, як не адпавядаючыя ўмовам конкурса. Прымалі ўдзел у конкурсе каровы, у якіх сутачныя ўдоі малака былі ня менш 27 ф. пры 3,6 проц. жыру. Усяго ў конкурсе ўдзельнічала 78 гаспадарак з 98 каровамі.

Сярэдная жывая вага конкурсных кароў была для мясцовай пароды 22 п. 26 ф., для чырвонай беларускай 24 п. 7 ф. і для мэтысаў—25 п. 30 ф. Узрост—ад 1 да 8 ацёлаў (у сярэдным 4 ацёлы) і час ад ацёлу 1-6 м-цаў, галоўным чынам 2-3 м-цы.

На працягу 7 дзён конкурса камісія, абраная з прадстаўнікоў мясцовых організацый, разам з кіраўніком конкурса спэцыялістым-зоотэхнікам, кожныя суткі вяла кантроль і вучот малака і выяўляла процант жыру кожнай каровы прынятай на конкурс.

Вынікі конкурса выяўляліся па колькасьці малочнага жыру за 7 дзён.

Каровы, якія ня далі 8,4 ф. жыру малака, лічыліся ня вытрымаўшымі конкурс, тыя-ж, якія далі больш 8,4 ф. жыру, былі аднесены да I, II, і III клясы рэкордыстак.

З 98 конкурсных кароў вытрымалі конкурс па I-й клясе (колькасьць жыру за 7 дзён звыш 12 фун.)—2 каровы, па II-й (колькасьць жыру 10-12 ф.)—12 кароў і па III-й (жыру 8,4-10 фун.)—31 карова, а усяго 45 кароў ці 41 проц. ад агульнага ліку ўдзельніц на конкурсе.

Вынікі атрыманьня за 7 дзён конкурса паказаны ў табліцы.

| Назва каровы | Ад каго належыць (местажыцельства гаспадара) | Парода, | Жывая вага ў пуд. | Лік ацёлаў. | На якім м-ы пасьля ацёлу | Удой за 7 д. у ф. | Найбольшы сутачны ўдой у ф. | Сярэдні % жыру | Колькасьць малочнага жыру за 7 д. у ф. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Антарэя | Улыбін Андрэй х. Маева, Заслаўск. р. | мясцовая | 22 п. 18 ф. | 2 | 3 | 273 | 42,5 | 3,9 | 12,69 |
| Маруся | Лазарчык Яфім в. Кацягі, Самахв. р. | мэтыс галянд. | 24 „ 26 „ | 3 | 4 | 280 | 40 | 4,0 | 12,38 |
| Рыжая | Лазарчык Павел в. Кацягі, Самахв. р. | чырвоная бел. | 26 „ 34 „ | 4 | 2 | 288 | 43 | 3,45 | 10,00 |
| Ялушка | Грыб Юзэф с. Кругляк; Самахв. р. | мэтыс голян. | 29 „ 31 „ | 5 | 5 | 280 | 41,5 | 3,9 | 10,95 |
| Красуля | Новадворскі П. с. Крупіца, Самахв. р. | мясц. палеп. | 30 „ 12 „ | 5 | 2 | 199 | 33 | 4,4 | 8,9 |
| Падласка | Сантаровіч А. п. Юцкі, Койдан. р. | мэтыс. ярасл. | 26 „ 34 „ | 5 | 2 | 248 | 36,5 | 4,5 | 11,26 |
| Гутарэня | Сантаровіч С. в. Новасады, Койдан р. | мясцовая | 24 „ — | 7 | 1½ | 268 | 39 | 4,0 | 10,63 |
| Рыжая | Карнеўскі Ігнат в. Лядынка | мясцовая | 19 „ — | 2 | 2 | 172 | 28 | 4,2 | 8,82 |
| Кветка | Палюховіч Зьм. п. Новасельле, Засл. р. | мясцовая | 24 „ 38 „ | 4 | 1 | 292 | 46,5 | 3,8 | 11,13 |

Гэта выбарка 9 кароў з 45 гаворыць аб тым, што ня глелзячы на дрэнныя ўмовы конкурса: гарачыню, дзякуючы чаму ўдоі былі трохі зьніжаны, сялянская скаціна прадукцыйна і заслугоўвае ўважлывіх адносін да сябе і дае магчымасьць шырока разгарнуць працу над ёю.

Сяляне надта зацікавіліся гэтым конкурсам.

Некаторыя сяляне пачалі перад конкурсам падкармліваць скаціну, каб яна давала больш малака і дзякуючы гэтаму праканаліся ў вялікай карысьці для сябе, бо ад падкормкі скаціна значна павялічвае ўдоі. Апрача таго ўпэўніліся, што самай вернай ацэнкай каровы можа быць ацэнка па прадукцыйнасьці—па ўдою і процанту жыру.

Зоотэхнік **М. Канавальчык.**

---

# Сьвіньня дае вялікую карысьць.

Хаця пра сьвіньню і кажуць, што яна і брудная, але гэта памылка: сьвіньня—самая чыстая і самая выгадная ў гаспадарцы жывёла. Сьвіньня—„скарбніца беларускага гаспадара“, бо, папершае, дае такія прадукты, як сала, мяса, і выгадней, чым іншая жывёла.

Сьвіньня—жывёла вельмі скорасьпелая і многаплодная; яна у 2-3 разы хутчэй нарашчвае сала і мяса, чым іншая жывёла. Яшчэ цікава, што сьвіньня выкарыстоўвае ўсе адкіды гаспадаркі (сыроватку) і шмат якія прадукты паляводзтва, якія ў гаспадарцы прападаюць

амаль што дарэмна (нягоднае зярно, мякіну і інш.). Але галоўнае тое, што сьвіньня выгадна перарабляе ў мяса і сала бульбу, якой у сяле бывае шмат. Калі бульбу прадаць на рынку, дык за пуд бульбы дадуць ня больш 25 кап., а яшчэ яе трэба і завесьці ды і гаспадар з канём праезьдзіць цэлы дзень. Бяз гэтых выдаткаў на правоз бульба будзе даваць гаспадару 15-17 к. за пуд. Калі-ж 15 пуд. бульбы скарміць сьвіньні, дык атрымаем 25,5 фун. прыросту жывой вагі. З гэтага прыросту чыстага сала і мяса будзе 20,2 фун. (9,7 фун. прыдзецца на сала і 10,5 фун. на мяса). Перавёўшы гэта ўсё на грошы (сала па 45 кап. за фунт дасьць 4 р. 36 к. і мяса па 25 кап. за фунт дасьць 2 р. 62 к.), палучым 6 р. 98 к. Такім чынам, мы, скарыстаўшы сьвінёю 15 п. бульбы,



Белы ангельскі кныр „Барон“ Сьвінзавода Івань. Слуц. р.

палучаем амаль у два разы больш, чым ад продажы бульбы. Вось якую карысьць дае нам сьвіньня, калі мы прадукты ня будзем прадаваць, а будзем скарыстоўваць сьвіньнёю.

Возьмем другі прыклад. Каб палучыць 1 пуд. сьвініны, трэба скарміць каля 5 пуд. зярна. Гэта каштуе 5 руб., а атрыманы 1 пуд. сьвініны каштуе каля 10 руб. (лічачы па 25 к. за фунт). І тут яскрава відаць, што пры скармліваньні прадуктаў сьвінёю на кожныя 5 пудоў збожжа нажываем лішніх 5 руб.

З усяго бачым, што сьвіньня—выгадная жывёла ў гаспадарцы і грошы, якія на пакупку сьвіньні будуць страчаны, скора зварочваюцца. Грошы ў сьвіньні зварочваюцца вельмі хутка і гаспадарцы даюць добры прыбытак. Асабліва хутка зварочваецца капітал у скорасьпелых сьвіньнях, якія палучаюцца ад ангельскіх племянікоў і нашых простых сьвіней. Ангельскія племянікі зараз ёсьць на Беларусі; яны працуюць у раёнах на злучпунктах.

Сяляне, вазеце туды прыпускаць сьвіней. Купляйце племяных парасят.

Аграном **Зьмітрыеў.**

# Даходнасьць птушніцтва ў сялянскай гаспадарцы.

Кожны селянін, які мае больш 2-х дзесяцін зямлі, павінен завесьці сабе невялічкае статка курэй.

Курэй трэба разводзіць добрай пароды, даваць ім разнастайны, добры корм, сьвежую ваду, тоўчанае каменьне, вугаль і г. д. Апрача гэтага, птушка вельмі любіць чыстату; вось чаму за апошнія часы лічыцца неабходным кожнаму гаспадару мець хоць просты, але дастасаваны для птушак куратнік.

Быў час, і ня гэтак яшчэ даўно, калі свойскіх птушак трымалі толькі для сябе, для сваёй гаспадаркі.

А дзеля таго, што хатняя гаспадарка спакон веку была ў руках жанчын, дык і да гэтых часоў асабліва сярод сялян трымаецца праконаньне, што птушніцтва—справа жаночая, нікчэмная.

Між тым птушніцтва наогул і асабліва кураводзтва адыгрывае значна большую ролю ў сялянскай гаспадарцы, чым гэта здаецца малазнаёмым з гэтай справай.

Запраўдная карысьць птушніцтва ў гаспадарцы відаць з наступнага: у Злучаных Штатах Амэрыкі ў 1913 годзе птушніцтва дало 750 мільёнаў доляр., а ў 1920 годзе даходнасьць птушніцтва павялічылася да 1.047 мільёнаў доляр., што па каштоўнасьці можна прыраўняць да гадовага вырабу золата, срэбра, жалеза і вугля ў тэй-жа самай Амэрыцы.

Зразумела, што мы ня можам зраўняцца з Амэрыкай шырока распаўсюджанай справай птушніцтва. У нашых умовах досыць будзе кожнаму селяніну мець статка ў 100 курэй добрай пароды, даць гэтым курам корм, догляд і памяшканьне, і гэта будзе вялікай матар'яльнай дапамогай гаспадарцы.

Гадоў 25—30 назад у нас на Беларусі пачалася вялікая і выгадная справа—гандаль яйкамі і птушкамі. Пачалася з малога, і таму, што была выгаднай; за гэты кароткі час так моцна павялічылася, што амаль дагнала гандаль збожжам, жывёлай і іншымі с.-г. прадуктамі.

За апошнія гады па ўсёй Украіне, Паволжцы і Падняпроўі, а таксама ў губ. Варонескай, Тамбоўскай, Курскай і інш. скупляецца ў сялян яйкі і пер'е птушніцтва і вывозіцца ў Нямеччыну, Ангельшчыну і інш. краіны.

У Расіі гандаль птушкамі і яйкамі хутка ўзрастаў; напрыклад, у 1890 годзе было вывезена заграніцу розных прадуктаў птушніцтва на 18 мільёнаў руб., а ў 1900 годзе ўжо на 39 мільёнаў руб., а яшчэ праз 10 год, у 1910 годзе, на 75 мільёнаў руб. Вось якую вялікую суму грошай мае насельніцтва ад свойскіх птушак. Адгэтуль выходзіць, што птушніцтва далёка ня нікчэмная справа, а можа даць добры прыбытак і зьявіцца добрай падмогай гаспадарцы.

Як відаць з пададзенага вышэй, попыт на прадукты птушніцтва ўсё павялічваецца, а гэта адна з самых галоўных умоў, патрэбных вясковаму гаспадару для таго, каб сьмела распачаць здабываньне сваіх прадуктаў.

На шмат мільёнаў рублёў скупляюцца ў сялян прадукты птушніцтва, але самі гэтыя прадукты вельмі дрэннай якасьці: *яйкі дробныя, брудныя, падсохшыя, шмат трапляецца і зусім папсаваных, птушка дробная, мяса яе цьвёрдае, а за дрэнны прадукт—дрэнная і цана.*

Усё сялянства да гэтага часу трымае мала даходных птушак і ўпэўнена, што яны выгадней адборных пародзістых—гэта дзякуючы таму, што на Беларусі ня было яшчэ ніводнай птушніцкае гаспадаркі, якая-б на практыцы паказала прыбытковасьць гэтай справы.

У племхозе *Марыупаль* (Самахвалаўскі р.) адрамантаваны куратнік і з 1927 г. там пачалася племяная і прамысловая (паказальная) праца. Намечана наступнае:

а) *Палепшаньне парод птушак пры дапамозе сэлекцыі.*

б) *Увоз племяных птушак з заграніцы і акліматызацыя іх у БССР.*

в) *Палепшаньне сялянскай птушкі праз водпуск сялянам заводзкіх птушак,* а таксама прадажай палепшаных акліматызаваных птушак.

г) *Вывад куранят для сялянства інкубатарамі.*

д) *Організацыя экскурсій і гутарак па птушніцтву.*

Птушніцтва, як і іншыя галіны сельскае гаспадаркі, патрабуе ведаў і ўважлівых адносін да справы, але на жаль у нас у БССР мала такіх людзей, а вядома, што даходнасьць ад кожнай галіны сельскае гаспадаркі залежыць выключна ад гэтага.

**І. Восіпаў.**

---

# Паказальнае кармленьне кароў у вёсцы Забалацьце Вузьдзенскага раёну.

Вёска Забалацьце знаходзіцца ў двух вярстах ад м. Узды і аграпункта. У гэтай вёсцы сяляне пачалі сеяць караньплоды, але ня зусім правільна скарыстоўвалі іх. Наогул, гэта вёска яшчэ мала культурная і бедная. З 7 па 27 лютага 1927 г. тут і былі праведзены с.-г. курсы і паказальнае кармленьне быдла. Паказальнае кармленьне кароў праводзілася з 11 сялянскімі каровамі. У сялян быў недахоп мукі і бульбы для корму, а сена і салома былі, але былі дарагімі і насельніцтва было вельмі зацікаўлена ў паказальным кармленьні

Каровы для паказальнага кармленьня выбіраліся сярэднія ад 15 да 25 пуд. жывой вагі, пераважна новацёлы. Жывая вага вызначалася абмерам. Трэба адзначыць, што ў той час каровы былі худыя і з гэтай прычыны выбар быў зусім невялікі. Усе каровы па магчымасьці пераводзіліся ў адзін хлеў, які належным чынам абсталёўваўся, асьвятляўся і ацяпляўся за кошт сялян. Да паказальнага кармленьня ў сялянскіх хлявох быў мароз да 8°, а пасьля апяпленьня стала 5° цяпла.

Нормы для кароў складаліся па дацкіх кармовых адзінках. Гуменны корм быў гаспадарскі, а спажыўны і бульба купляліся на сродкі курсаў. Увесь час кармленьня падзяліўся на два пэрыяды: *кантрольны* (чатыры дні) і *паказальны* (14 дзён). У кантрольны пэрыяд каровы карміліся звычайным спосабам найбольш у халодных хлявох. Даіліся два разы ў дзень. У гэты час падлічваліся корм і малако. Тут было заўважана, што большасьць кароў пераядалі гуменны корм і малака давалі мала. З прычыны дарагавізны гэтага корму сабекошт малака быў высокі.

З пачатку паказальнага пэрыяду па дацкіх кармовых адзінках (па жывой ваге і малаку) была вылічана неабходная колькасьць корму для кожнай каровы. Цяпер яны карміліся і даіліся па тры разы ў дзень, паіліся два разы.

Далей паказваю некаторыя лічбы адносна вынікаў кармленьня:

| ПРОЗЬВІШЧА ГАСПАДАРА КАРОВЫ. | Цярэшка Аляксей. | Цярэшка Ганна. | Цярэшка Даніла. | Цярэшка Сальвэсь. | Сухаверка Янка. | Бюльдзюкевіч А. | Махнач Кастусь. | Махнач Алесь. | Чарнаус Паўлюк. | Махнач Янка. | Стрыгельскі Паўлюк. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| №№ кароў . . . . . | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| Жывая вага (у пуд.) . | 15 | 19 | 17 | 19 | 20 | 25 | 20 | 23 | 24 | 22 | 22 |
| **А. Пры звычайным кармленьні:** | | | | | | | | | | | |
| Давалася корму ў карм. адзін. . . . . . | 8,0 | 10,5 | 10,15 | 9,5 | 10,25 | 10.23 | 12.4 | 9,66 | 16,16 | 5,83 | 9,0 |
| Давала малака за дзень (літр.) . . . . . | 3 | 5.5 | 5,5 | 2,5 | 7,25 | 7,5 | 5,5 | 5,0 | 8,5 | 7,75 | 6,5 |
| Сабекошт 1 літра малака (кап.) . . . | 9,28 | 6,66 | 6,58 | 13,66 | 4.73 | 5,69 | 8,10 | 7,33 | 7.59 | 3,07 | 4,83 |
| Прыбытак ці ўбытак (кап.) . . . . . | 2,16 | 18.36 | 18,8 | −9.16 | 38.18 | 32,36 | 10,44 | 13,34 | 20.52 | 53,74 | 33.64 |
| **Б. Пры паказальным кармленьні:** | | | | | | | | | | | |
| Палучала корму ў карм. адзін. . . . . . | 12.0 | 13,5 | 14.65 | 11.0 | 16,66 | 17,75 | 14,0 | 16,0 | 18,0 | 17,2 | 14,75 |
| Давала малака за дзень (літр.) . . . . . | 6,5 | 7,25 | 6.5 | 3,9 | 10.5 | 11,5 | 7,1 | 8,2 | 12,0 | 10,0 | 7,3 |
| Сабекошт 1 літра малака (кап.) . . . | 6.7 | 6,7 | 7,7 | 10,0 | 5,7 | 5,6 | 7,1 | 6,9 | 5,3 | 5,8 | 7,5 |
| Прыбытак ці ўбытак (кап.) . . . . . | 21.12 | 24,02 | 14,65 | 0,25 | 45,03 | 57,07 | 20.46 | 25,0 | 35,96 | 41,76 | 18,38 |

Калі зьвярнуць увагу на павялічэньне ўдояў, дык з табліцы відаць, што за 14 дзён кармленьня па нормах, яны павялічыліся для розных кароў ад 1 да 4 літраў. Прычын гэтаму шмат. Папершае, большасьць кароў навацельныя (ад 2-х да 6-ці тыдняў пасьля цяленьня), якія і без належнага кармленьня ў кантрольны пэрыяд за кошт свайго організму давалі значныя ўдоі. Падругое, ня ўсе каровы былі аднолькавай сытнасьці. Некаторыя зусім худыя і ў час паказальнага кармленьня частку корму трацілі на рэмонт свайго цела.

Ня гледзячы на ўсё гэта, а таксама і дарагавізну корму, усе каровы (за выключэньнем 3, 10, 11) ад паказальнага кармленьня далі прыбытак. Гэта значыць, што павялічаныя ўдоі малака аплацілі ня толькі ўсе страты звычайнага і паказальнага кармленьня, але далі ў суткі чысты прыбытак ад 5 да 35 к. большы, чым давалі да паказальнага кармленьня.

Аб карысьці кармленьня па нормах досыць яскрава гаворыць і сабекошт аднаго літра малака. Напрыклад, 1 літр малака каровы гр. Цярэшкі Аляксея пры звычайным кармленьні каштуе 9,28 кап., а ў канцы пака-

зальнага кармленьня—6,74 к. Гэта значыць, каб атрымаць адзін літр малака пры звычайным кармленьні, трэба страціць корму на 9,28 к., а пры кармленьні па нормах усяго 6,74 кап. Павышэньне сабекошту 1 літра малака ад некаторых кароў пры паказальным кармленьні тлумачыцца, галоўным чынам, новацельнасьцю кароў.

Поруч з правільным кармленьнем праводзіўся і правільны догляд за каровамі: кожны дзень каровы падсьцілаліся сухой падсьцілкай і цераз дзень чысьціліся.

Паказальнае кармленьне кароў па нормах значна ўскалыхнула сялян і паказала ўсе недахопы звычайнага кармленьня, якое мае галоўным недахопам адсутнасьць спажыўнога і сакавітага корму, і перакорм кароў гуменным кормам, што звычайна ўдаражае кармленьне і сабекошт малака.

Недакорм кароў у сялян хістаецца ад 1,5 да 7,5 карм. адзінак, што відаць з табліцы. Часта бывае, што малочная карова ў першыя тыдні і пры вялікім недакорме дае добры ўдой малака, але гэта ідзе за рахунак організму каровы. Карова ад гэтага худзее і малочная машына псуецца. Праз невялікі час і добрая карова становіцца хваравітай і няпрыгоднай да высокіх удояў і здаровага прыплоду.

Таварышы сяляне, карміце вашых кароў па нормах, дык будзеце з малаком і з кормам.

Аграном **П. Ляневіч**.

(Узьдзенскі р.).

---

# Беражыце сваю скаціну ад сібірскай язвы.

**Сібірская язва—сьмяртэльны вораг сялянскай гаспадаркі: ад яе штогодна на Беларусі прападае шмат скаціны і нават паміраюць людзі!**

За апошні час па некаторых акругах (Магілеўскай, Гомельскай, Мазырскай, Бабруйскай і Полацкай) зьявілася пошасьць (эпізаотыя) сібірскай язвы, ад якой шмат захварэла і прапала скаціны. Па даных Вэтбюро НКЗ ад гэтай хваробы прапала каля 150 галоў буйнай рагатай скаціны і коняй, што пры пераводзе на грошы будзе прыблізна складаць суму ў 9000 руб. Страта даволі значная ў бюджэце нашага беларускага селяніна.

Сібірка—хвароба ня новая у нас на Беларусі; яна штогодна зьяўляецца па розных акругах, але не усякі год гэта хвароба прымае эпізаотыі з масавым падзяжом скаціны.

Сялянам трэба зьвярнуць увагу па гэту страшэнную хваробу і павесьці з ёю самую рашучую барацьбу. Калі самі сяляне і паасобныя гаспадары будуць ведаць, як усьцерагчыся, каб не занесьці да сябе заразы сібірскае язвы, дык гэта значна палегчыць і самую барацьбу з ёю. Толькі сьвядомасьць самага насельніцтва ў барацьбе з сібіркай дасьць гарантыю таго, што яна найхутчэй можа быць зьнішчана і пазбавіць сялянскую гаспадарку ад вялікіх страт. Вось, дзеля чаго сялянам і трэба ведаць, што гэта за хвароба і як з ёю змагацца.

Сібірка бывае ў ва ўсіх жывёлін і ў чалавека. Выклікаецца яна праз заражэньне жывёлы асобнымі мікробамі. Усюды, дзе толькі застаюцца сьляды хворае жывёлы, застаецца і зараза. Небясьпечны магілы і ямы, дзе валяюцца незакапаныя трупы, капыты, рагі і інш. Сабакі, воўкі разьцягваюць заразу, а таксама мухі і авадні разносяць

яе на значныя прасторы. Зараза яшчэ разносіцца праз зьнятую шкуру, волас, шэрсьць ад хворае на сібірку жывёлы.

**Калі трэба падазраваць у жывёлы сібірскую язву?**

У жывёлы падазраваюць захвараваньне сібірскай язвай і паведамляюць вэтэрынара: 1) калі жывёла раптоўна памрэ і пры гэтым з задняга выхаду, з роту і носу будзе выцякаць крывавістая сукравіца; 2) калі ў жывёлы без усякай прычыны зьявіцца дзе-небудзь на жываце альбо на грудзёх небалючы вопух, які шыбка будзе павялічвацца.

**Што рабіць, калі ў гаспадарцы зьявіцца сібірская язва?**

Перш за ўсё трэба безадкладна паведаміць вэтэрынара аб зьяўленьні хваробы. Потым здаровую скаціну абавязкова патрэбна вывесьці з заражонага хлява і аддзяліць ад хворай. Гной пасьля хворай скаціны вывесьці і спаліць, а ў хлеў, дзе была памершая скаціна, нікога ня ставіць без дазволу вэтэрынара, які таксама дасьць раду, як зрабіць дэзынфэкцыю хлява, драбіны і інш. Калі былі выпадкі раптоўнай сьмерці жывёлы на пашы, дык трэба зараз-жа зьмяніць пашу і на тое месца ня пускаць нікога. Лепей ўсіх кароў вёскі паставіць па дварох тыдні на два і сачыць за імі. Калі ў працягу двох тыдняў яны не захварэюць, дык можна лічыць, што застапуцца і на далей здаровымі. Галоўным чынам, *трэба прыбіраць трупы паўшай жывёлы і закопваць іх разам са скурай на скоцкіх магільніках і на глыбіню ня меней 3-х аршын.* Таксама неабходна выконваць усе загады вэтэрынара, калі ён прыедзе і праканаецца, што гэтая хвароба ёсьць сібірка, і загадае пэўныя спосабы змаганьня з ёю, каб яе канчаткова зьнішчыць у данай гаспадарцы. У цяперашні час здаровай жывёлы робяць прышчэпкі супраць сібіркі, падобна да таго, як шчэпяць воспу людям. Гэтыя прышчэпкі зусім няшкодны і застрахоўваюць жывёлу ад сібіркі на адзін год.

Вэтэрынар **М. Жарын.**

---

# Малочныя арцелі ў Лупальскім раёне.

Малочныя арцелі ў разьвіцьці сельскае гаспадаркі займаюць адно з першых месц. Яны зьяўляюцца штурхачамі для падняцьця прадукцыйнасьці малочнае скаціны, ставяць пытаньне селяніну аб правільным кармленьні жывёлы і дапамагаюць гаспадарцы са спажывецкай стаць даходнай. У нашым раёне, год таму назад было організована дзьве малочныя арцелі. Сяляне з пачатку глядзелі на арцель, як на нешта не патрэбнае і не хацелі здаваць малака. Але прайшоў год і сяляне замест здадзеных у сакавіку м-цы 1926 г. у сярэднім 20 ведзер малака на кожны дзень у сакавіку 1927 г. здавалі па 95 вёдзер. Цяпер ужо ёсьць шмат зацікаўленых тым, дзе і як бы дастаць малочную карову, як яе лепш карміць і інш.

Толькі малочныя арцелі і інш. коопэрацыйныя аб'яднаньні змогуць даць усё патрэбнае вёсцы і дапамагчы ёй паставіць гаспадаркі так, каб яны прыносілі даход.

У гэтай справе дапамогуць нам аграномы і наша аб'яднаньне. Усімі сіламі і дружна пойдзем на пад'ём нашай сельскай гаспадаркі.

Сел. **В. Усачоў.**

(в. Кароўчына, Лупальскі раён).

---




## Дасьледчы матар‘ял адносна тэхнікі культуры дзічак.

У сувязі з немагчымасьцю поўнасьцю друкаваць вынікі дасьледчай працы за шэраг гадоў нам выпадае дзяліцца з чытачамі „Плуга" кароткімі артыкуламі адносна нашых вынікаў у садоўніцтве.

Ужо ня раз нам прыходзілася адказваць аграномам, сялянам і інш. на запытаньні да нас па садоўніцтву і цяпер у сувязі з рэжымам эканоміі адказваю: „*чытайце Плуг*!"

Часопісь „Плуг" за 1925, 26 і 27 г. зьяўляецца Беларускай сялянскай энцыклёпэдыяй, без якой немагчыма абысьціся аграному, настаўніку, перадавым гаспадаром і г. д.

З вялікім здавальненьнем пішу ў часопісь, маючы надзею, што некалькі раз у год голас Горацкай Садовай дасьледчай станцыі даляціць да самых глухіх куткоў нашых абшараў.

Па тэхнічных умовах даводзіцца часам ня зьмяшчаць табліц, дыаграм і інш., што магло-б падкрэсьліць важнасьць вынікаў тых ці іншых досьледаў. Па пытаньні аб культуры дзічак мы таксама не зьмяшчаем шэрагу табліц.

Трэба ведаць, што ў пладовым гадавальніку мы павінны адрозьніваць два асноўных аддзелы: школу дзічак і школу прышчэпак.

Тэхніка культуры ў гэтых аддзелах будзе розная.

Ёсьць мясцовасьці (Палтаўшчына, Курская губ.), дзе сялянства з посьпехам займаецца масавай гадоўляй дзічак, якія прадаюцца для вываза ў іншыя месцы.

I—пытаньне пры закладаньні школкі дзічак—гэта даступнасьць таннага, мясцовага, пладовага насеньня. Аб гэтым ужо пісалася ў „Плугу". Зноў падкрэсьлім, што лепшым матар‘ялам зьяўляецца для прышчэпліваньня яблынь насеньне дзікай лясной яблыні; для ігруш дзічок—ігруша. Лепшым дзічком для вішні ў нашых умовах—квасная вішня, якая знаходзіцца ў сялянскіх садох, для сьліў—хатняя сьліўка.

За абошнія гады мы ўпэўніліся, што здабываць пладовае насеньне ў нашых умовах магчыма.

Ёсьць мясцовасьці, якія з посьпехам могуць здаволіць значнай колькасьцю пладовага насеньня. Недахопам лясных дзічок яблынь, ігруш зьяўляецца слаба раззросшыяся карэнчыкі, станцыя мае надзею ў будчыне, шляхам сэлекцыі вывесьці адмены дзічак з лепшай карнёвай сыстэмай.

II. Для пасьпяховай культуры дзічак патрэбна адпаведная плошча. Лепшай лічыцца супесак гародны з ухілам на поўдзень і на высокіх мясцовасьцях з цяжкім суглінкам. На някультурных глебах школку дзічак ніколі не закладайце: дарэмная праца. Дзічкі добра пойдуць тамака, дзе з посьпехам расьце капуста, цыбуля.

III. *Тэрмін высеву.* З посьпехам магчыма сеяць увосень на градах разьмерам: 20 мэтраў даўжыні і 1 мэтр 10 см. шырыні (сьцежка паміж ґрадак 35 см.). На гэткую градку добраякаснага насеньня (яблык, ігруш) трэба высяваць 200 гр. альбо поўфунта ў 5 барознак удоўж, прычым адлегласьць паміж баразёнкамі 18 см. (4 вярш.).

Пры веснавым пасеве трэба ўжываць стрытыфікацыю, альбо пескаваньне. Апошнія досьледы паказваюць, што пескаваць трэба ўвосень, у кастрычніку (альбо ў лістападзе). Тут вызначаюцца 2 спосабы: альба насеньне ў скрыначцы з пяском пакідаюць у склепе, дзе тэмпэратура трымаецца 5—8 градусаў і сачаць каб пясок быў троху вільготным, альбо магчыма скрынку перад першым сьнегам прыкапаць у зямлю (плытка) і такім парадкам пратрымаць да вясны.

Заўважым, што калі захоўваюць з восені скрыначкі ў склепе, дык ня трэба прамаражываць насеньне, бо досьледы паказваюць што вільготнае насеньне на марозе траціць у значнай меры ўсхожасьць.

IV. *Адлегласьць паміж сеянцамі.* Шэраг досьледаў паказвае, што для дзічак яблынь трэба даць плошчу пажывы 4×4 вяршкі (альбо 18×18 см).

V. *Пікіроўка сеяцаў*, г. зн. падрэзка карэнчыкаў яблыні, ігрушы ўпару, калі ўжо ёсьць 2-3 сапраўдных лістка. Гэта апэрацыя досыць рызыкоўная ў канцы траўня, калі наглядаецца значны сонцапёк.

Мы ўжываем мэтад падрэзкі карэнчыкаў на месцы ў дажджлівую пагоду. Такім чынам мы будзем пазбаўлены ад выкапваньня дзічак і перасадкі на новае месца.

VI. Пасьля падрэзкі карэнчыкаў вельмі важна паміж сеянцаў пакрыць грады перапрэўшым гноем, бо гэта затрымлівае параваньне (аддачу вільгаці ў паветра).

VII. Ужываць апрысківаньне дзічак у чэрвені (калі яны аправяцца ад падрэзкі). 1 проц. растворам бардоскай жыжкі. На 100 фунтаў вады трэба ўзяць ½ фунта сіняга каменя і ½ фун. адгашанай вапны. Сіні камень разводзіцца ў вадзе асобна, вапна асобна і тады памалу ўсё зьмешваецца. Ня трэба забываць, што вядзёркі і інш. пасуда павінна быць толькі драўляныя. Калі ня апырсківаць, дык дзічкі часта набіваюцца пархам, іржаўчынай і застанаўліваюцца ў росьце.

VIII. Мэтай культуры зьяўляюцца атрыманьне дзічкі ў 4-7 мілімэтраў таўшчыні ў шыйцы і 8-12 вяршкоў даўжыні з добрымі 3-5-ю карэнчыкамі.

Проф. **М. Бурштэйн.**

---

# Як рабіць з яблык пасьцілу, мармаляд і павідла.

Перарабляць садовіну на павідла і мармаляд вельмі лёгка і проста. Работа гэтая не патрабуе адмысловых прылад і інструмантаў. Звычайная руская печ, дзе пякуцца і сушацца яблыкі і грушы, кацёл ці вялікі чугун для варкі пладоў; сіта для праціркі садовай мякаці і ацынкованае сіта для сушкі—вот і ўсё, што трэба мець у гэтым разе.

Аснаўным матар'ялам для перапрацоўкі будуць яблычнае і грушавае пюрэ (звараныя і перацёртыя плады), якое робіцца так: плады вараца ў катле ці ў чугуне. Яблыкі лепш пячы ў печы (для пасьцілы бяруцца толькі печаныя яблыкі). Яблыкі пякуць датуль, пакуль мякаць не разварыцца. Трошкі дабаўляецца вады, каб яблыкі са дна не прыгарэлі. Пасьля звараныя ці сьпечаныя плады праціраюць праз сіта, каб шкуру, насеньне і сярэдзінку аддзяліць ад мякаці. Гэтак працёртая мякаць і ёсьць пладовае пюрэ. З яго далей ужо можна рабіць пасьцілу, мармаляд ці павідла.

*Пасьціла* вырабляецца бялковая і безбялковая. Каб зрабіць бялковую пасьцілу, бярэцца пюрэ і зьбіваецца ў якой-небудзь пасудзіне да таго часу, пакуль яна ня ўсьпеніцца і не пабялее. Затым дадаюць на кожныя 5 фун. масы па 1-2 бялкі курыных яек. Пасьля ізноў зьбіваецца да пены. Зьбіваньне гэта цягнецца мінут 40-50. Тады дабаўляюць цукру; на 1 фун. масы $1/4$—$1/3$ фун. цукру. Ізноў зьбіваюць мінут 30-40, пакуль маса ізноў пабялее і зробіцца, як каша. Далей на сіта пасьцілаюць белую ці жоўтую паперу і наліваюць зьбітую масу таўшчынёю 1-$1\frac{1}{2}$ сантымэтраў і ставяць у лёгкую печ (50°-60°) гадзіны на 3-4, пакуль прадукт ня зробіцца зусім сухім.

Высушаны прадукт вымаюць з печы; здымаюць з сіт і пакідаюць пры хатняй цяплыні дзён на 2 на 3. Затым зьдзіраюць паперу, накладваюць некалькі пластоў адзін на другі па 15-20 шт., пераклаўшы іх сьвежа зьбітаю масай, варэньнем ці мёдам і з паверхні наводзяць глянс зьбітай масай, далей ізноў падсушваюць. Пасьля высушкі пасьціла гатова.

Захоўваюць пасьцілу ў драўляных скрынках высланых паперай у прахладным памяшканьні. У яблычную мякаць можна дадаць выціснуты сок з ягад і палучаць пасьцілу з прысмакам зямлянікі, маліны, рабіны і г. д.

З ігруш пасьціла ня робіцца, бо мякаць яе дрэнна зьбіваецца ў пену.

Безбялковая пасьціла прыгатаўляецца такім жа парадкам, як бялковая, толькі не дабаўляюцца бялкі з яек, а цукру бярэцца больш, а іменна: на 1 фун. мякаці бярэцца $1/2$-1 фун. цукру. Бялковая пасьціла мае выгляд белае больш пульхнае масы, як безбялковая.

З 100 фун. яблык палучыцца каля 80 фун. пюрэ. На што ідзе каля 40-50 фун. цукру. Пасьля прасушкі палучаецца да 2 пуд. пасьцілы.

*Мармаляд.* Бярэцца яблычнае пюрэ альбо яблычнае памешанае з ігрушамі. Дабаўляецца цукар і варыцца ў меднай пасудзіне ці пабяляных чугунох. Масу з пюрэ трэба пастаянна памешваць, каб ня выкіпела да такое гушчыні, што пасьля астыўшы ня зрабілася-б цьвярдою. Затым увараную масу выліваюць у драўляныя латкі, высланыя пергамінавай паперай. Наліваюць пасьцілу таўшчынёю ў 1 сант. Як маса застыне прыносяць яе з паперай на сіта і ставяць у печ для прасушкі, пры цяпле 50°-60°, пакуль яна ня зробіцца цьвёрдай. Высушанаму прадукту даюць адляжацца на дзён 3-5. Здымаюць паперу, рэжуць на кускі, перасыпаюць цукрам. Цяпер мармаляда гатова.

*Павідла.* Бяруць яблычнае і грушавае пюрэ, дабаўляюць на кожныя 4 фун.—1 ф. цукру і ўварваюць гэта на слабым агні. Уварваючы трэба пюрэ пастаянна памешваць, каб маса не прыгарэла. Каб мець належную гушчыню, трэба падаграваць мінут 35. Трэба праз увесь час падтрымліваць кіпеньне. Згусьцеўшую масу шчыльна ўкладваюць у гліняныя гаршкі і ставяць іх у лёгкую рускую печ (як хлеб вымуць), каб на

прадукце зрабілася лёгкая скарыначка, якая захоўвае ад псаваньня павідла. Затым гаршкі абвязываюць пузыром ці пергамінавай паперай, заліваюць смалою ці воскам і захоўваюць у халаднаватым месцы.

Аграном **К. Цэхановіч.**

---

# Пасадка саду на пясчанай глебе*).

Пясчаная глеба мае наступныя асаблівасьці: яе часткі мала зьвязаны, чаму вада і пажыўныя часткі хутка прасачываюцца ў ніжэйшыя слаі. Пясчаная глеба мацней нagravаецца і ў сувязі з недахопам вільгаці сушыць расьліны. Апроч таго, калі землероб цікавіцца першымі



Прышчэпа гатовая для перасадкі ў сад. Папярэчнымі рыскамі паказана, як абрэза карону першы і другі раз.

Прывязваньне да кала прышчэпы.

5-6 вярш. глебы, дык садоводу трэба стала глядзець у глыб ня менш, як на 3-4 аршына. Для мэт пладоўніцтва трэба ведаць, якое чаргаваньне паміж пластамі глебы.

Калі маем вучастак, на якім пясок залягае ад паверхні глыбінёй ад 3-х да 5 арш., дык пры сучаснай нашай тэхніцы земляробства закладка саду на гэтым месцы—дарэмная праца і трата сродкаў.

*) 6-VII 1927 г. з вёскі Міневічы, Крычаўск. р., з Магілеўшчыны ад селяніна Сівадзёдава Цімоха мы атрымалі наступны ліст: „Наколькі мне вядома, садоўніцтва ў апошні час пачынае ўсё больш і больш укараняцца ў шырокія масы сялянства. Насельніцтва ўсё больш цікавіцца гэтым пытаньнем, лічачы, што садоўніцтва ў сельск. гаспадарцы—даходная рэч асабліва ў сучасны момант, калі ўзят курс Савецкай улады на ўзмацненьне с. г. З гэтае прычыны, імкнучыся палепшыць сваю гаспадарку, я хачу задаць некалькі пытаньняў: 1. Спосаб пасадкі на пясчанай глебе, як угнойваць сады. 2. Як даглядаць малады сад. 3. Як весьці барацьбу са шкоднікамі саду“. Адказваю на першае пытаньне. (М. Б.)

Калі супясок залягае на глыбіні 1-$1^1/_2$ арш. і нават 2 арш. на вадапрапушчальнай гліне, дык ёсьць сэнс закладаць сад, бо праз 10-15 гадоў карэньні яблыні ці ігрушы дасягнуць гэтых спрыяючых слаёў.

Здараецца, як часта гэта бывае, што супясок залягае на марэне, якая затрымлівае ваду. На гэта асабліва зьвернем увагу і падкрэсьлім, што *абраны вучастак пад сад заўсёды павінен мець натуральны вадасток і нязначны ўхіл.*

Лепшыя сады ў БССР мы сустракаем на схілах. Калі вучастак пясчаны і займае роўную плошчу, а на глыбіні $1^1/_2$-2 арш. марэна з моцнай гліны (і каменьнямі) — тады ёсьць небясьпека, што праз 15-20 гадоў сад пачне засыхаць: карэньні дасягнуць вільготнага пласта і пачнуць душыцца.



Першае дрэўца пасаджана добра Калі зямля асядзе, яно будзе сядзець так, як другое на малюнку. Трэцяе дрэўца пасаджана заглыбока.

Калі плошча пад сад абрана, дык неабходна прыступіць да паляпшэньня вучастка.

Падрыхтоўваць плошчу пад сад патрэбна загадзя за 2-3 гады. Трэба сеяць лубін і заворваць на ўгнаеньне, трэба садзіць бульбу па ўгнаеньню. Лепш усяго садзіць сад пасьля бульбы. Калі ўраджай бульбы дасягае 800 і звыш пудоў на дзес.—тады ёсьць упэўненасьць у посьпеху закладкі саду.

Капаньне ям і падвозку ўгнаеньня толькі пад прышчэпы (пакідаючы пуставаць песчаная плошча навокал) мы лічым мерапрыемствам не дасягаючым мэты.

У маладым садзе на пясках і наогул на іншых глебах самае галоўнае сачыць за правільным ужываньнем прамежкавых культур.

Мы раім, напрыклад, плошчу сада падзяліць на 4 роўныя часткі і ў належным севазвароце сеяць: 1-лубін з парашком тамасаўкі; 2-бульбу (пасьля заворанага лубіну; 3-выку з аўсом альбо гарох; 4-капусту, гуркі, турнэпс па ўгнаеньні з разьлікам 2400 пуд. на дзес.

Гэтага севазвароту трэба прытрымлівацца ня менш 12-16 гадоў. Ніколі ў садзе ня сеяць пшаніцу і інш. каласовыя культуры, ня сеяць канюшыну.

Апрацоўку глебы штогод трэба рабіць удоўж і поперак, для чаго дрэвы абавязкова садзіць квадратам. Не падыходзіць плугам да штамбу на 1 арш.; блізка штамбу штогод перакапываць лапатай і заўсёды трымаць бліжэйшую паверхню пад дрэвам пакрытай перапрэўшым угаеньнем, торфам. Пры пасадцы саду торф (перамешаны з кампостам) мае выключнае значэньне: затрымлівае вільгаць, стварае вельмі добрыя ўмовы для карэньняў і росту дрэў. У траўні і чэрвені, калі стаіць сухмень, трэба маладыя прышчэпы добра паліваць (3-4 вядра пад дрэва).

Заўважым, што ня ўсе сарты яблык добра сябе адчуваюць на пясках. Для лёгкіх глеб Мазыршчыны мы раім садзіць каштоўныя *таварныя сарты яблын—Штэцін чырвоны і Бойкэн.* Добра там сябе адчувае *ранэт Лянзбэрга, ранэт Абэрдзіка.*

Пытаньне аб пладовым асортымэнту для розных глеб Нямеччыны ўжо добра апрацована. Толькі ўпартай колектыўнай дасьледчай працай у будучыне і мы здолеем вырашыць гэта яго ва ўмовах БССР.

**М. Бурштэйн.**

---

# Зьнішчайце апаўшае лісьце ў садзе[1])

Вядома ўсім, хто мае сады, што хутчэй і даражэй магчыма прадаць чыстыя бяз плям яблыкі, а калі гаспадар мае яблыкі з плямамі ды яшчэ малыя дык ён ня можа прадаць іх за добрую цану. Чаму



Парша яблыні. Шкодзіць пладам і лісьцю.

---

[1]) Адказ на трэцяе запытаньне селяніна Сівадзёрава (Рэд.)

гэтак бывае? А таму что, сады, якія знаходзяцца ў чыстаце, у якіх у час робіцца неабходная абрэзка, дакладна зьбіраюцца і зьнішчаюцца захварэўшыя плады, лісьце і засохшыя галіны, даюць звычайна лепшы і больш сталы ўраджай пладоў. Але ў нас чыстаты ў садох зусім не назіраецца. Усюды сустракаем сады, ў якіх абрэзка, амаль што зусім ня робіцца, хворыя галіны, а таксама плады ня зьнішчаюцца. Лісьце, якое апала з дрэва ў восень, ляжыць на зямлі аж да вясны, у іншых выпадках лісьце зьбіраюць пад плот у кучы, але зусім рэдка яго зьнішчаюць.

Між тым, гэта лісьце выяўляе значную пагрозу таму, што на ім зімуе цэлы шэраг чужаедных грыбкоў, як парша яблык, альбо ігруш.

Вось калі ў пачатку вясны зьбяром у садзе апаўшае лісьце яблыні або ігрушы і яго пераглядзім, дык на ім знойдзем невялікія чорныя кропкі —гэта пладнічкі грыба з пасьпеўшымі зімовымі зароднікамі (спорамі). Споры—надта малюсенькія зярняткі, адпавядаючыя па свайму прызначэньню зярнятам іншых расьлін. Калі спора перанясецца ветрам, на маладое толькі што расьпусьціўшаеся лісьце альбо плады яблынь і ігруш і пападзе ў добрыя ўмовы жыцьця, (цяплынь і вільгаць), дык яна пачынае прарастаць і дае пачатак новаму організму, так званай грыбніцы. Грыбніца пачынае шпарка расьці і вынікамі такога разьвіцьця палучаюцца зноў споры.


Парша грушы.

За ўвесь летні час споры грыбка могуць заразіць шмат садоў, і хвароба будзе перадавацца кожны год. Назва гэтых хвароб—*парша*.

У нас існуюць галоўным чынам дзьве паршы: адна на яблыні, а другая на ігрушы.

Паршу яблынь, пры добрых умовах яе разьвіцьця, магчыма ўбачыць, амаль што на ўсіх яблынях; асабліва прыметна яна ў летні час на яблыках, якія пакрыты зеленавата-аксамітнымі плямамі, а таксама і па лісьцях у выглядзе чорных кропак, альбо плям. Калі плям на лісьцёх зьявіцца шмат, дык лісьце сохне і ападае сярод лета. Падобныя-ж чорныя, аксамітныя плямы зьяўляюцца і на маладых яшчэ зялёных галінах. Асабліва парша шкодна для маладых яблык; ад хваробы яны пачытаюць вяць і ападаць. (Мал. на 34 стар.)

Парша ігрушы сустракаецца на лісьцях, пладах, на галінах і парастках. На маладых паростках і галінках, яна выклікае скрыўленьне і шчыліны. Гэтакія шчыліны даюць добры прытулак для разных шасьці-

ножак і пачатак хваробе раку; самі паросткі і галіны гінуць. Плады, якія захварэлі паршай зморшчваюцца, даюць таксама шчыліны і пакрываюцца плямамі; маладыя плады вянуць і ападаюць (Мал. на 35 стар.)

Такім чынам мы бачым, што апаўшае лісьце зьяўляецца месцам хвароб для яблыні і груш.

Каб ня было гэтых хвароб, трэба:

1) зьбіраць і зьнішчаць апаўшае лісьце гэтым мы зьнішчаем усіх чужаедаў;

2) абрэзаць і паліць захварэўшыя галіны;

3) збіраць і зьнішчаць застаўшыяся на галінах гнілыя плады;

4) апрыскваць расьліны перад распусканьнем пучкоў або ў час распусканьня растворам бардоскай жыдкасьці;

5) апрыскваць расьліны пасьля цьвіценьня два разы (праз два тыдні раз заразам).

Бардоская жыжка прыгатаўляецца так: у глінянай пасудзіне раствараюць 3 фунты сіняга каменя, а ў другой пасудзіне гасяць 2 фун. вапны і разбаўляюць яе да малака. Пасьля гэтага бяруць кадку або бочку, у якую ўліваюць з пачатку раствор сіняга каменя, а потым малако вапны. Усё добра мяшаюць каб ня было камкоў, даліваюць вады да васьмі з паловай вёдзер і састаў гатоў. Калі састаў пастаіць, дык ён, глуміцца.

Зрабіўшы паказаныя працы ў садзе, у нас ня будзе больш плям на яблыках і грушах, і павялічыцца ўраджай.

М. Пілько.

---

# Пачнем культурна займацца пчалярствам.

Шмат хто з маладых пчаляроў думае, што стоіць завесьці пчол як адразу можна будзе бяз лішняга клопату ад іх забагацець. А таго ня ведаюць, што нішто ў гаспадарцы ня вымагае столькі догляду, клопату і спэцыяльных ведаў, як пчолы, каб мець з іх карысьць.

Раней прыродныя ўмовы Беларусі былі трохі больш спрыяючымі для пчол. Таму можна было палучыць даход ад пчол, водзячы іх нават у калодах і бяз спэцыяльных на тое ведаў. Цяпер-жа толькі той можа называцца пчаляром і спадзявацца ад пчол даходу, хто вывучыў усе законы, па якіх жывуць пчолы. *Сям'я пчол—машына вельмі складаная і далікатная.* Хто-б мог, напрыклад, спадзявацца, што такая маленькая штука, як вусікі пчалы маюць каля 20.000 каморачак, якія можна разглядзець толькі праз моцна павялічваючае шкло мікраскопа. Цяпер ужо вядома, што пчолы добра водзяцца ня праз калдаўство, а ў таго, хто добра ведае законы, як разводзяцца, жывуць і працуюць пчолы. А веды гэтыя дае толькі навука.

Ёсьць шмат і такіх пчаляроў, якія хоць і ня вераць розным калдуном і забабонам, аднак думаюць, што пчол можна трымаць бяз жадных ведаў па пчалярству, скажам як курэй ці кароў.

Адзін селянін з-пад Менску, даведаўшыся, што пчолы прыносяць карысьць ня толькі мёдам і воскам, але і тым, што апыляюць кветкі і гэтым павялічваюць даход гаспадаркі, завёў пчол. Пчолы гэтыя ён пасадзіў у рамавыя вульлі і пакінуў іх зімаваць на дварэ, хаця вульлі аднасьценныя. Аглядзеўшы вясною свае вульлі, ён убачыў, што пчолы былі мёртвымі, хоця корм яшчэ застаўся. Дагадаўшыся, нарэшце, што пчолы яго проста замерзьлі, ён ізноў купляе пчол і садзіць іх у тыя-ж вульлі.

З падыходам зімы на гэты раз пчолы ён уносіць у жылую хату. Тут нейкі час пчолы стаялы спакойна (хата была старая, а зіма халодная). Але скора ў хаце пацяплела. Пчолы пачалі шумець і выпаўзаць з вульлёў. Каб затрымаць іх на месцы, гэты няўдалы пчаляр зарашоціў ляткі і пчолы зноў паўміралі.

Другі пчаляр з вёскі Падбалоцьце, таксама з-пад Менску, трымае зімой пчол у памяшканьні, за сьцяною якога ткуць кросны, часамі сякуць дровы. У гэты „амшанік“ ён ходзіць з запаленай лямпай, моцна гаворыць каля вульля, чаго рабіць нельга. Трэці купіў вясною калоду пчол. Увосень палез „падглядаць“ і так „падгледзіў“, што ў місцы з падрэзанымі сотамі з мёдам знайшлася і дзятка. Убачыўшы ў місцы чарву, ён зьдзіўлёна спыніў работу. Мёд прадаў на базары, баючыся, каб і людзі не даведаліся, што ён „у мёдзе чарвей завёў“. Сам вядома такога мёду з чарвямі ён ў рот ня ўзяў.

Я ўжо вышэй зазначыў, што пчалярства дае вялікі даход, але толькі культурнае пчалярства. Адзін нямецкій прафэсар і вучоны пчалавед Цандэр кажа, што ў Нямеччыне даход ад прадажы воску, мёду і ад гандлю пчалярскім інвэнтаром дасягаў у даваенныя часы да 25 мільёнаў руб. у год. Павялічэньне-ж нацыянальнага багацьця праз пчалаводзтва ў сельскай гаспадарцы дасягала 450 мільёнаў рублёў у год.

Расійскі прафэсар і вучоны пчалавод Логінаў кажа, што нават тагды, калі-б пчолы зусім не давалі даходаў мёдам і воскам, дык і тады-б мы павінны былі іх разводзіць, бо ад іх карысьць сельскаму гаспадару вялікая.

Што-ж рабіць, каб пчолы добра вадзіліся і давалі даход? Для гэтага трэба:

1) Вадзіць пчол толькі ў рамовых вульлях і ўмець выбраць такі вулей, у якім можна было-б вадзіць іх пановаму.

2) Умець падрыхтоўваць пчол да зімы, умець даглядаць зімою, а таксама ўмець аберагчы іх ад хваробаў і ворагаў.

3) Ужываць мёдагонку і штучную вашчыну.

4) Трымаць на пасяцы толькі сільныя сем'і.

5) Не дазваляць пчолам шмат раіцца, знаць спосабы зьмяншэньня раеньня і ўмэць (калі трэба) рабіць штучнае раеньне.

6) Глядзець, каб пчолы падчас галоўнага ўзятку мелі-б даволі месца для склада мёду.

7) Ведаць, калі і з якіх мёданосаў палучаецца галоўны ўзятак.

8) Ня трымаць зусім старых матак.

9) Пчолы разводзіць толькі ад самых моцных і лепшых сем'яў.

10) Умець прыбіраць, сартаваць і хаваць мёд.

11) Ведаць жыцьцё пчол і ведаць спосабы іх догляду.

Калі раней усе гэтыя веды пчаляру часам нельга было набыць, дык цяпер гэта зусім лёгка зрабіць. Цяпер ня толькі сельска-гаспадарчая часопісь, але нават газэты ахвотна зьмяшчаюць артыкулы па пчалярству.

У нас на Беларусі ёсьць блізка пяцьдзесят тысяч пчаляроў.

Шмат хто з іх выпісвае сцэцыяльныя часопісі па пчалярству, але ня кожнаму гэта пад сілу. Аднак заўсёды магчыма выпісаць адну часопісь, у якой можна знайсьці парады па розных галінах гаспадаркі. Рэдакцыя часопісі „Плуг“ рашчыняе свае старонкі для пчаляроў. Трэба толькі, каб самі пчаляры зьмяшчалі свае артыкулы, падпісваліся на часопісь і вывучалі-б усе новыя дасягненьні навукі ў гэтай справе. Я маю надзею ў часопісі „Плуг“ зьмясьціць цэлы шэраг артыкулаў па пчалярству.

**У. М. Ліванскі.**

# Галоўныя асеньнія работы на пасецы.

Каб пчолы добра перазімавалі, яны павінны мець патрэбны запас мёду. Разьмяркаваць мёд трэба так, каб яго лёгка было дастаць пчолам; інакш і з мёдам пчолы могуць памерці з голаду.

Зьбіраючы мёд, пчолы самі заўсёды разьмяркоўваюць яго правільна, але пчаляр, адбіраючы ўвосень лішкі мёду, нарушае правільнае яго разьмеркаваньне ў вульлі. Вось каб гэтага ня было, трэба ўмець правільна скласьці гняздо на зіму, бо ад неправільнага складаньня гнязда ў мала вопытных пчаляроў гінуць пчолы.

Складаць гнёзды на зіму пачынаюць пасьля 1-га верасьня па новаму стылю. К гэтаму часу дзяткі ў вульлі будзе мала і можна будзе бяз шкоды скарачаць гнёзды.

Пры складаньні гнёздаў глядзяць перш за ўсё на тое, каб запасу мёду ў вульлі хапала на зіму. Мёду трэба пакідаць столькі, каб яго хапіла да мая месяца. Запасы мёду пакідаюцца гледзячы на тое, колькі пчол будзе ў вульлі зімаваць, а таксама і дзе будуць пчолы зіма-



Разьмеркаваньне мёду к зіме ў вульлі ляжаку. *Е*—ляткі. *Д*—застаўка. *Ж*—сена. а—падушка. Стрэлка паказвае кірунак руху пчол.

ваць—на волі ці ў будынку; калі на волі, дык трэба пакідаць на 10 фунтаў больш. Такім чынам, пры зімоўцы ў будынку пакідаецца ад 20-25 фун. на вулей, а на волі ад 30-35, зважаючы яшчэ на тое, на колькі вялікая сям'я.

Складаючы гнёзды, трэба правільна разьмеркаваць рамкі з мёдам, чарвой і сушшу, прымаючы пад увагу тое, што пчолы на запячатаным мёдзе зімою не сядзяць, а сядзяць на той вашчыне, якая альбо пустая, альбо з чарвой. Зьеўшы мёд, пчолы паступова пасоўваюцца ўсім клубком у глыб вульля. Мёд у вульлі павінен знаходзіцца каля самых пчол і там, куды рушацца пчолы.

Зімовае разьмеркаваньне сотаў (з мёдам), чарвы і сушшы робіцца ў залежнасьці ад сыстэмы ці тыпу вульля.

Усе рамовыя вульлі можна падзяліць на 4 галоўныя тыпы:

1. *Стаякі*, у якіх рамкі вузка-высокія ці нізка-шырокія, але разьмеркаваны ў некалькі ярусаў. Вышыня такога вульля больш шырыні і глыбіні (вульлі сыстмэы Пракаповіча, Барысоўскага і інш.).

2. *Ляжакі,* у якіх рамкі вузка-высокія ці нізка-шырокія, але вышыня менш шырыні ці даўжыні вульля (вульлі Дзагіноўскага, Лявіцкага, Пяткоўскага і інш.).

3. *Надставачныя*, у якіх рамкі нізка-шырокія і вышыня вульля менш шырыні і даўжыні. Такія вульлі маюць надстаўкі ці магазыны (вульлі Дана, Рута і інш.)

4. *Скрыначныя*, у якіх корпус вульля і магазыны складаюць з паасобных невялікіх скрынак, (вульлі Ханда, Гэдуона і інш.).

У залежнасьці ад тыпу вульля клубок пасоўваецца не аднолькава. У стаячых вульлях клубок пасоўваецца толькі уверх; у ляжачых—уверх і ўпоперак рамак; у надставачных—уверх, удоўж і ўпоперак рамак; у скрыначных уверх, а часамі і ўпоперак рамак.

У вульлях—стаяках мёд павінен займаць увесь верхні ярус рамак, калі вулей шматярусны. У верхнім ярусе мёд павінен быць толькі ў крайніх рамках. У сярэдзіне-ж пчолы робяць для сябе лёжы; тут павінны знаходзіцца рамкі з чарвой і пустая вашчына. Калі вулей—стаяк аднаярусны з высокімі рамкамі, дык рамкі падбіраюцца так, каб мёд размяркоўваўся ў такім-жа парадку.





Разьмеркаваньне мёду ў надставачным вульлі. *Б*—ляткі. Д—застаўкі. *Г*—лёжа пчол. а—падушка.

У вульлях—лежаках мёд павінен разьмяркоўвацца з аднаго боку вульля процілеглага ад лятка *(мал. 38 ст.)*, і чым далей ад лятка, тым мёду павінна быць больш. Клубок пчол у такім вульлі пасоўваецца спачатку ўверх па рамцы, затым пойдзе ўпоперак рамак і з заду вульля.

У надставачных вульлях мёд разьмяркоўваецца так, як у лежаках, але к аднаму боку вульля. Самая крайняя рамка з боку процілеглага, дзе ляжаць запасы, павінна быць поўнай мёду *(мал. 39 ст.)*. Так разьмяркоўваецца мёд у надставачных вульлях, калі яны маюць халодны занос, г. ё. рамкі стаяць рабром да лятка. Калі-ж такі вулей мае цёплы занос, то мёд у ім трэба раскладаць так, як і ў лежаку.

У скрыначных вульлёх мёд павінен разьмяркоўвацца так, як і ў стаяках. У скрыначным вульлі трэба толькі адняць верхнія дзьве скрынкі, якія тут служаць за магазыны, а самы ніжні за гняздо. Астаюцца на зіму другая і трэцяя зьнізу скрынкі.

Нарэшце, трэба сказаць некалькі слоў аб пыльцы. Яна таксама патрэбна зімою ў вульлі, хаця самі пчолы зімою яе не ядуць, але ў

канцы зімы яна пчолам патрэбна будзе для выкармліваньня дзяткі. Дзеля гэтаго яе таксама трэба пакідаць у вульлі. Класьці соты з пыльцою лепш за ўсё бліжэй да цэнтру гнязда.

Не малое значэньне мае вашчына, на якой пчолы зімуюць. Для зімоўкі лепш вашчына цьмяная; яна цяплейшая і пчолы на ёй лепш зімуюць.

Пры складаньні гнязда, трэба адначасова рабіць зімнія ходы пчолам, прадзіравіўшы соты пад верхняй лінеечкай круглым кіёчкам. Па такіх ходах пчолам будзе лягчэй перабірацца з рамкі на рамку, не баючыся застынуць (зьмерзнуць), як гэта часта бывае з імі, калі яны абыходзяць рамку з боку каля халодных сьценак вульля.

(в. Загор'е, Віцебскага с.-с.).

Селянін-пчаляр **А. Магучы**.

# С.-г. хроніка.

*Пашырэньне мінэральных угнаеньняў.* У гэтым годзе попыт сялян на мінэральныя ўгнаеньні пад жыта значна павялічыўся. На некаторых акругах на 5-е верасьня ўжо разышліся амаль усе форсфарныя ўгнаеньні, хаця нарыхтоўка мінэральных угнаеньняў перавысіла плянавыя меркаваньні. Асабліва шпарка ішоў супэрфосфат, фосфарытная і касьцяная мука. У менскім аддзяленьні Цэнтраземсклада бывалі дні, што за дзень разыходзілася па 4 вагоны ўгнаеньняў.

*Азімая выка.* Цэнтраземскладам палучана і разьмеркавана па акругах 370 пуд. азімай выкі. Большасьць насеньня пойдзе для вопытных вучасткаў і насенным т-вам. Прадаецца выка па 34—36 кап. за кілё.

*Павялічан попыт сялян на сэзонныя с.-г. машыны.* Зараз купляецца даволі шмат веялак, сартовак, малатарняў, прывадоў і сячкарняў.

*Аб правядзеньні „Дню Ураджаю“.* Наркамзем праспрацаваў і разаслаў інструкцыю аб падрыхтоўцы і правядзеньні сьвята „Дню Ураджаю“ і сельска-гаспадарчых выставак. Усім сялянам трэба загадзя рыхтаваць экспонаты.

*Прадажа прышчэп.* У гэтым годзе прадажа прышчэп з выхальнікаў Бельсельтрэсту будзе праводзіцца толькі тым сялянам, якія будуць мець пасьведчаньне ад мясцовага агранома ў патрэбе ім прышчэп.

Прышчэпы будуць прадавацца ў саўхозах:

| | |
|---|---|
| „Пяскі“, Гомельск. акр. . . . . | 4.500 шт. |
| „Дварэц“, Бабр. акр. . . . . . | 1.500 „ |
| „Блонь“, Менск. акр. . . . . . | 1.600 „ |
| „Калініна“, Менск. акр. . . . . | 1.000 „ |

Таксама прышчэпы будуць прадавацца на Горацкай Садова-Дасьледчай станцыі.

*Вываз яблык з Беларусі.* Белсельсаюз закупляе ў саўхозах Бел-сельтрэсту 12.500 пуд. яблык для прадажы ў Ленінградзе і Маскве.

*Сушка яблык.* Завод па перапрацоўцы садовіны ў саўхозе Забалацьце, Аршанск. акр. купляе ў сялян усе сарты яблык для сушкі па цане 60 кап. пуд.

**Выданьне Наркамзему.**

Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

Рэд. кол. *Э. Русецкі, Р. Шукевіч, А. Смоліч, Сьц. Тупяневіч.*



645

**ЦАНА 20 кап.**

## Выданьні Наркамзема.

1. **Атабекянц**—Шляхі бэконізацыі сьвінаводзтва БССР. 1927 г. стар. ц. 15 кап.
2. **Проф. Ліскун**. Агульная жывёлагадоўля. 1926 г. 140 стар. ц. 80 к.
3. **Проф. И. Кулагин**. Красный белорусский скот 1923 г. 18 ст. ц. 6 к.
4. **Проф. Касаткин**. О почвах Белоруссии 1923 г. 18 ст. ц. 10 к.
5. **Проф. Штэйнберг**. Практычвае гародніцтва 1924 г. 136 ст. ц. 60 к.
6. **Я. Пачопка**. Як узгадаваць і даглядаць сад, 1923 г. 72 стар. ц. 20 к.
7. **Л. Калікінскі**. Лубін і яго культура 1924 г. 40 стар. ц. 20 к.
8. **В. Жыван**. Культура кармовых кораньплодаў 1923 г. 42 стар. ц. 20 к.
9. **П. Заяц**. Мінэральныя парашкі—шлях да павялічэньня ўраджаю 1927 г. 26 ст. цана 6 кап.
10. **С. М. Тупяневіч**. Способы барацьбы з кілою капусных расьлін. 1927 т. 32 ст. цана 25 кап.
11. **С. Тупяневіч. і Заяц**. За лепшую сельскую гаспадарку. 1926 г. 78 ст. ц. 25 к.
12. **М. Лайкоў**. Аб складаньні пераходных табліц на шматпольле, 1926 г. 20 стар. цана 25 кап.
13. **С. Тупяневіч і А. Дзямідовіч**. Вывучэньне тэхнікі сялянскага ральніцтва, 1926 г. 28 ст. ц. 25 к.
14. **А. Михайлов**. Очерк развития агрономической помощи в БССР, 1923 г. 28 ст. цана 10 кап.
15. **П. Бойко**. Что должен знать переселенец о Д. Востоке и Сибири 1927 г. ц. 25 к.
16. **З. Скоморохов**. Что должен знать крестьянин о лесе, 1925 г. 70 ст. 25 к.
17. **И. Седашев**. Лесное хозяйство, 1923 г. 15 ст. ц. 5 к.
18. **И. Седашев**. Отпуск леса трудовому населению, ц. 30 к.
19. **Иванов**. Краткое руководство к производству лесных культур. ц. 30 к.
20. **С. Жлановіч і Ярашчук**. Характарыстыка сельскай гаспадаркі Беларусі 1926 г. 140 стар. ц. 70 к.
21. **Б. Бабицкий**. Производственные минимумы в крестьянском хозяйстве БССР 1927 г. 54 ст. ц. 25 к.
22. Сельское хозяйство БССР и мероприятия по его восстановлению. 1925 г. 80 ст. цана 30 кап.
23. Как вести земельныя дела в Белоруссии 1926 г. 32 ст. ц. 25 к.
24. **Л. Ивицкий**. Перечень действующего земельного законодательства. БССР 1927 г. 26 ст., ц. 15 к.
25. Земельный кодекс БССР с узаконениями, правилами и инструкциями, 1927 г. 354 ст. ц. 2 р. 60 к.
26. **Проф. Пичета**. История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии до конца XVI века. (*Печатается*).
27. Гадавыя комплекты с.-г. часопісі „Плуг“ за 1925 і 1926 г. ц. 1 р. 10 к.
28. **Перспективный план НКЗ** на 1925—30 г. выпусках:

I. Естественно-исторические и экономические условия развития сельского и лесного хозяйства БССР и основы с.-х. политики ц. 50 к.

II. Мероприятия по землеустройству, переселению, сельскому строительству, мелиорации, культур.-технике и торфу ц. 70 к.

III. Агрономическая сеть БССР и перспективы ее развития ц. 60 к.

IV. Мероприятия по Государственным Земельным Имуществам БССР, ц. 80 к.

V. Мероприятия по ветеринарии, ц. 10 к.

VI. Мероприятия по лесному хозяйству, ц. 40 к.

VII. С.-х. кооперация и средства производства в деле развития сельского хозяйства БССР, ц. 20 к.

VIII. Баланс сельского хозяйства БССР и Финансирование на 1926—30 г., ц. 25 к.

**Апрача таго, Выдавецтва НКЗ мае кнігі выданьня Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва і выдавецтва „Новая Деревня“.**

**Заказ накіроўваюць** *Менск, Саввцкай 71, Выдавецтва НКЗ.*